# У чым выгадна захоўваць грошы ў новай сітуацыі?

Старонка 7

## Падпішыся сам, падпішы дзядоў!

«Наша Ніва» без вас не выжыве. А вы з «Нашай Нівай» будзеце мець у хаце ўсю праўдзівую інфармацыю. **Як падпісацца — старонка 2.**

№ 03 (888) 21 студзеня 2015 www.nn.by

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады




Старонкі 4—5

## Нікому не патрэбныя

Шматдзетная сям'я з Маларыцкага раёна дабілася 57 гектараў зямлі. Тэхніку сабралі, лічы, з металалому. За адзін з такіх самаробных трактараў гаспадара і садзяць.

### Лукашэнка: Мова і гісторыя робяць беларуса беларусам, а не проста «тутэйшым»




Старонка 3

### Непатапляльны Міхаіл Русы: міністр пры ўсіх прэм'ерах. Гісторыя жыцця галоўнага аграрыя краіны



Старонка 6

# Навала

Беларускія «кібаргі» ўдзельнічаюць у абароне Данецкага аэрапорта. Старонка 3

Аляксей Марачкін. Навала. Палатно. Алей (2014)

# Ігар Логвінаў просіць грамадскасць пра фінансавую дапамогу

**Незалежны выдавец** выступіў з заклікам падтрымаць кнігарню «логвінаЎ» матэрыяльна.

«Нягледзячы на ўсе нашы высілкі і жаданне працаваць легальна, мы апынуліся ў такой сітуацыі, што нам пагражае штраф амаль 970 мільёнаў рублёў, што робіць далейшую нашу працу немагчымай. Цяпер мы знаходзімся ў стадыі судовых разбіральніцтваў. Але сітуацыя складаецца так, што нам давядзецца выплачваць гэты штраф. І мы прымаем на сябе абавязальніцтвы па яго выплаце», — абазначыў сваю пазіцыю Ігар Логвінаў.

Ён заклікае грамадскасць дапамагчы кнігарні. Для яе далейшага існавання патрэбныя грошы: на выплату штрафу (калі судовае рашэнне не будзе адменена), на выплату арэнды.

І калі грамадскасць хоча захаваць гэтую інтэлектуальную пляцоўку, яна мусіць ахвяраваць.

Філосаф Валянцін Акудовіч назваў «акцыю» супраць кнігарні спланаванай. Ён адзначыў, што падатковая не прыйшла з праверкай у кнігарню пасля першай, другой ці трэцяй адмовы ў рэгістрацыі. А чакалі амаль год, каб сума «набегла» большая — амаль на мільярд. А гэта ўжо значныя грошы. «Каб кнігарня з гэтага штрафу ўжо ніколі не магла выкараскацца і далей існаваць».



Пісьменнік Уладзімір Арлоў гатовы стаць на пэўны час за прылавак кнігарні, каб падтрымаць яе. Да гэтага заклікае і іншых калег.

«У дадзенай сітуацыі, калі наша вярхоўная ўлада загаворвае пра вяртанне да нацыянальных каштоўнасцей, пра тое, што, страціўшы мову і культуру, мы знікнем як нацыя, у нас не будзе гістарычнай перспектывы, выглядае вельмі дзіўным такі «наезд» на кнігарню. Можа, гэта можна кваліфікаваць так: левая рука не ведае, што робіць правая. Я ўсё-такі спадзяюся, што Вярхоўны суд улічыць гэтую сітуацыю і будзе разглядаць кнігарню «логвінаЎ» не як шараговую юрыдычную асобу», — адзначыў Арлоў.

Старшыня ПЭН-цэнтра Андрэй Хадановіч звярнуў увагу, што падтрымаць кнігарню можна, «укладваючы свае кроўныя грошыкі ў нашы кроўныя кніжкі» — «набываць кнігі з асартыменту».

Цяпер Ігар Логвінаў абскарджвае апошнюю адмову Міністэрства інфармацыі ў рэгістрацыі кнігарні. Скаргу разглядае Вярхоўны суд. Але нават у выпадку, калі суд стане на яго бок, гэта не адменіць вялізны штраф.

«Я не збіраюся з'яджаць з Беларусі. Мая жонка працуе ў Вільні. Таму я вымушаны жыць у Мінску і ў Вільні. І не хачу страчваць такую магчымасць. У нас маленькая дачка, якая хоча быць з татам і мамай».

У планах у Логвінава — зарэгістраваць зноў выдавецтва ў Беларусі і паспрабаваць стварыць сетку кнігарняў «логвінаЎ» па краіне. І хаця юрыдычна ён не мае цяпер адносін да кнігарні, ён звязвае сваю далейшую працу з ёй.

**Сяргей Макарэвіч**

Ахвяраванні на ўратаванне выдавецтва «Логвінаў» можна зрабіць двума спосабамі.
1) Прынесці грошы (толькі ў беларускіх рублях) у кнігарню (Мінск, пр-т Незалежнасці, 37а). Звярнуцца трэба да прадаўца, а пры сабе мець пашпарт.
2) Даслаць на літоўскі рахунак Літаратурнага дома «Логвінаў» (праз інтэрнэт-банкінг альбо праз сістэму PayPal) у далярах і еўра:
LT052140030003236738
Logvino literaturos namai
Nordea Bankas, Bank code 21400
Swift code NDEALT2X

# Ананіч: Сайты будуць несці адказнасць за некарэктныя каментары на форумах



Уладальнікі сайтаў будуць несці адказнасць за некарэктныя каментары карыстальнікаў, заявіла міністр інфармацыі Лілія Ананіч падчас анлайн-канферэнцыі на сайце дзяржаўнага інфармагенцтва БелТА.

«Паводле закону аб СМІ, адказнасць нясе ўладальнік сайта. Орган дзяржаўнага кіравання, які абавязаны ажыццяўляць кантроль за выкананнем заканадаўства ў гэтай сферы, будзе выносіць уладальнікам рэсурсаў папярэджанне, калі ў каментарах змяшчаецца інфармацыя, распаўсюд якой або забаронены законам, або наносіць шкоду дзяржаўным і грамадскім інтарэсам, або мае непраўдзівую, абразлівую інфармацыю», — сказала яна.

Гэтая заява выклікала бурную крытыку ў інтэрнэце. Такі падыход дае падставы для ўсялякіх правакацый і абмежавання свабоды слова, пішуць людзі.

**СГ**

# «Тэма самакіраванасці БПЦ здымаецца з парадку дня»

**Мітрапаліт Павел** спыніў грамадскую дыскусію.

Па ягоных словах, беларускія святары, якія выступалі за самакіраванасць царквы, так і не змаглі патлумачыць сваю мэту.

«На фоне таго, што адбываецца ў Еўропе і ў свеце, гэтая думка гучыць неяк тэндэнцыйна. У мяне склалася ўражанне, што гэтую ідэю спецыяльна сюды падкінулі, і яна сёння як ніколі не ў час прагучала», — патлумачыў Павел.

«Я павінен абсалютна афіцыйна сказаць, што ўвесь ажыятаж і шум нічога, апроч шкоды, не прынёс. Пажаданне з боку Мінскай епархіі выклікала хвалю абурэння з боку агромністай колькасці людзей», — пракаментаваў сітуацыю ён.

«Я прыняў рашэнне гэтае пытанне зняць з парадку дня. Давайце перастанем абмяркоўваць гэтую тэму. Гэтае пытанне трэба на неабмежаваны тэрмін закрыць. Тэма здымаецца з парадку дня, і мы найбліжэйшыя 25—50 гадоў да яе вяртацца не будзем», — падсумаваў Павел.

**Ягор Марціновіч**





**Акадэмік Радзім Гарэцкі: Там, дзе беларуская мова, — там Беларусь!**



«Хачу паўтарыць словы Пуціна, толькі наадварот: там, дзе беларуская мова, — там Беларусь! Трымайцеся роднай мовы!» — з такімі словамі звярнуўся да навучэнцаў Коласаўскага ліцэя акадэмік-геолаг Радзім Гарэцкі.

Беларускамоўны ліцэй адсвяткаваў сваё 25-годдзе ў мінулы чацвер, 15 студзеня, у галерэі «Ў».

**Апытанні на nn.by**

**Што для Вас найважнейшае? (Можна выбіраць некалькі варыянтаў адказу.)**

| | | |
|---|---|---|
| Сям'я | 1328 | 21% |
| Свабода | 1146 | 18% |
| Здароўе | 1152 | 18% |
| Радзіма | 786 | 12% |
| Каханне | 469 | 7% |
| Грошы | 437 | 7% |
| Дом | 392 | 6% |
| Сэкс | 260 | 4% |
| Жыццё ў сваё задавальненне, жыццё ў кайф | 208 | 3% |
| Абы вайны не было | 187 | 3% |

Аддадзена 6 365 галасоў

**Ці падтрымліваеце Вы кампанію, скіраваную супраць «лайдакоў і дармаедаў»?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 77 | 7% |
| Не | 645 | 57% |
| Я слаба разумею яе мэты | 210 | 18% |
| «За» ўзмацненне падатковай дысцыпліны, але «супраць» абмежавання свабоды выбару людзьмі жыццёвага шляху | 211 | 18% |

Прагаласавала 1143 чалавекі

**Самае чытанае на nn.by за 14—20 студзеня**

1 Лукашэнка: Я ніколі не прыніжаў беларускую мову. Усе пытанні — да Машэрава
2 Працоўныя кабінеты Меркель і Лукашэнкі — адчуйце розніцу
3 Сталінград XXI стагоддзя: у Данецкім аэрапорце зацятыя баі, даходзіць да рукапашных
4 Аляксандра Аверкава знялі з праграмы «Контуры»
5 Беларускія «кібаргі» змагаюцца пад Данецкім аэрапортам ВІДЭА
6 У Мінску жанчына выкінулася з акна бальніцы пасля родаў
7 Віктар Марціновіч: Я заклікаю верыць у Бога
8 Украінскія войскі нанеслі масіраваны ўдар па ДНР
9 Беларус з батальёна «Азоў» — герой, авантурыст або нацыст? Інтэрв'ю з Сяргеем Каротких
10 Уласнік расейскай кампаніі: Тут мы пампром як рабы

# Лукашэнка: Мова і гісторыя робяць беларуса беларусам, а не проста «тутэйшым»

Лукашэнка перахапіў рыторыку апазіцыі. Праўда, да рэальных справаў пакуль не даходзіць.

20 студзеня на 42-м (БРСМ выводзіць гісторыю яшчэ ад камсамола) з'ездзе грамадскага аб'яднання «Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі» Лукашэнка ўзгадаў пра беларускую мову.

«Ёсць меркаванне: у сучасным свеце няма месца нацыянальным культурам, а ім на змену прыходзіць адна — глабальная. Мяркую, што гэта не так. У кожнага народа ёсць уласная сістэма каардынат, вектар развіцця, зададзены яго гістарычным досведам і нацыянальнай культурай. Праз іх прызму мы ўспрымаем свет. Ці мы далучаемся да эканамічных альянсаў, ці пераймаем тэхналогіі, ці далучаемся да сусветнай культуры — мы ўсё роўна ўсё пераламляем праз сябе. І гэта дазваляе нам перажыць, «пераварыць», калі хочаце, глабалізацыю, узяць ад яе толькі тое, што нас умацоўвае», — адзначыў кіраўнік дзяржавы.

«Культура — вось што робіць беларуса беларусам, а не проста «тутэйшым», у якім бы пункце зямнога шара ён ні знаходзіўся. Не толькі наша найбагацейшая спадчына: літаратура, музыка, архітэктура — але і мова, якую мы павінны ведаць, гісторыя, якую мы павінны памятаць, і каштоўнасці, якія мы павінны паважаць», — падкрэсліў Лукашэнка.

Яшчэ аднойчы тэма беларускай мовы ўсплыла ў інтэрв'ю Лукашэнкі Рыгору Ёфэ. Вось урывак з кнігі прафесара «Пераацэньваючы Лукашэнку: Беларусь у культурным і геапалітычным кантэксце» (Reassessing Lukashenka):




На з'ездзе БРСМ прыдумалі замену георгіеўскай стужцы. Яе мае замяніць чырвона-зялёная стужка з яблыневым цветам. Першую такую стужку ўручылі Аляксандру Лукашэнку, які паставіўся вельмі прыхільна да такой ініцыятывы.

«Я ніколі не прыніжаў беларускую мову. Пры Лукашэнку пры паступленні ў ВНУ цяпер пішуць больш на беларускай мове сачыненняў, чым на рускай. Разумееце? Вось ён дрэнны. Я супраць таго, каб гэтую тэму нагул абмяркоўваць. Мова — гэта святое. І ў нас ёсць усё для таго, каб спакойна — калі трэба, 20 гадоў, каб паставіць беларускую мову ўпоравень з рускай. Усе астатнія пытанні — да Машэрава».

Ад красавіка 2014 года Лукашэнка рэзка памяняў сваю рыторыку адносна беларускай мовы. Кіраўнік дзяржавы ўсяляк падкрэслівае важнасць яе захавання, казаў, што самому патрэбна дзве гадзіны, каб вольна пачаць размаўляць на ёй. Праўда, рэальных дзеянняў, а не словаў пакуль што бракуе. Нават усе заявы пра неабходнасць не забывацца беларускай мовы былі зробленыя па-руску.

Засмучае, напрыклад, той факт, што ў краіне дагэтуль няма дзіцячага канала мультфільмаў пабеларуску, праз які будучае пакаленне магло б засвойваць мову.

**Зміцер Панкавец**

# Наталля Машэрава: Сёння роля мовы такая, тады — былі іншыя задачы

Словы Аляксандра Лукашэнкі адносна ролі Пятра Машэрава ў сітуацыі з беларускай мовай мы папрасілі пракаментаваць дачку першага сакратара ЦК кампартыі Беларусі Наталлю Машэраву.

«У мяне няма каментароў. Гэта пункт гледжання Аляксандра Лукашэнкі. Я не разумею, якія пытанні да Машэрава. Іншая эпоха, усё іншае. Гэта трэба аналізаваць. Лічыць ён так, госпадзе, гэта ж ніяк не прыніжае вартасці мінулага кіраўніка.

Мой тата быў настаўнікам фізікі ў школе. Тады фізіка і матэматыка выкладаліся па-беларуску, яшчэ да вайны. У мяне абедзве бабулі размаўлялі па-беларуску. І мы з мамай часта размаўлялі па-беларуску. Увогуле, калі прыязджалі ў Беларусь, то пераходзілі на беларускую. Прысутнічала мова ў нашым жыцці.

А што тычыцца дзяржаўнай палітыкі ў дачыненні да мовы, то пытанне вельмі складанае. Нельга так з кандачка, адным мазком. Аляксандр Рыгоравіч не развіў сваю думку, не надта добра каментаваць такія неразгорнутыя меркаванні.

Роля мовы ў розныя часы розная. Сёння яна такая — Лукашэнка правільна яе вызначыў, тады — былі іншыя задачы і мэты.

У гісторыі няма вінаватых ці невінаватых. Ёсць гістарычная мэтазгоднасць. Што значыць «вінаваты-невінаваты»? Вы чапляецеся за словы».

**Запісаў ЗП**

### Фотафакт



**Новы кіраўнік БРСМ**

38-гадовы Андрэй Беляко̆ў (родам з Гомеля) узначаліў Беларускі рэспубліканскі саюз моладзі. Ён прыйшоў на змену Ігару Бузоўскаму, якога перавялі на працу ў Адміністрацыю прэзідэнта.

# Навала



Беларускія добраахвотнікі бароняць Украіну.

Беларускія «кіборгі» бароняць Данецкі аэрапорт.

Ідуць зацятыя танкавыя баі ў раёне Пяскоў, МЗС Расіі патрабуе ад Украіны здачы Данецкага аэрапорта.

Колькасць і інтэнсіўнасць абстрэлаў на Данбасе расце. За апошнія суткі загінула трое ўкраінскіх салдат, 66 атрымалі раненні, паведамілі ў АТА. «Добрых навін няма. Сітуацыя напружаная, дзесьці дамагліся поспеху, а недзе — не»,— апісаў сітуацыю ў АТА дарадца прэзідэнта Юрый Бірукоў у сябе на Facebook.

Па стане на вечар 20 студзеня баі за Данецкі аэрапорт працягваліся. Агонь вядуць у Пясках, Аўдзееўцы і Тоненькім.

«Наша артылерыя кожны раз душыць агнявыя кропкі баевікоў, як толькі пачынаецца іх актыўнасць. Аб'екты, раней вызваленыя падраздзяленнямі Узброеных сіл, цяпер застаюцца пад кантролем вайскоўцаў», — расказалі ў прэс-цэнтры АТА.

У аэрапорце даходзіць да рукапашных. Баевікі ўзарвалі перакрыцці другога паверха новага тэрмінала аэрапорта, у выніку чаго шматлікія ўкраінскія байцы атрымалі раненні.

Сярод тых, хто змагаецца пад Данецкам, ёсць і беларусы. Беларускія добраахвотнікі вывесілі бел-чырвона-белы сцяг у вёсцы Пяскі, ключавой пазіцыі, якая дапамагае ўкраінскім жаўнерам утрымліваць Данецкі аэрапорт. Вёска Пяскі — крытычна важны пункт побач з аэрапортам, утрымліваючы які, украінская армія можа эфектыўна дапамагаць абаронцам аэрапорта артылерыяй і боепрыпасамі.

Абаронцы аэрапорта, атрымаўшы за сваю нязломнасць мянушку «кіборгі», пахавалі міф пра тое, што на постсавецкай прасторы ніхто не можа доўга супрацьстаяць ваеннай машыне Расіі.

**Сяргей Гезгала, Алесь Гелагаеў**

# Аляксандра Аверкава знялі з праграмы «Контуры»

«Дзякуй, я не даю інтэрв'ю», — заявіў сам тэлевядучы, не выслухаўшы нават пытанне ад «Нашай Нівы».

У прэс-службе АНТ патлумачылі, што ў ролі вядучых «Контураў» будуць спрабаваць сябе 5–6 журналістаў. «У нас шмат маладых таленавітых вядучых. Убачыце практычна ўвесь наш калектыў», — сказалі там. Такі кастынг — часовая з'ява. Але ці вернецца Аверкаў у «Контуры», пасля будзе вырашаць кіраўніцтва тэлеканала. Цяпер вядучага можна бачыць у выпусках навінаў.

Аляксандр Аверкаў апошні раз у «Контурах» з'явіўся 28 снежня. 4 студзеня праграму вёў ужо Яўген Лашкоўскі, 11 студзеня — Раман Паддубскі.

Аверкаў нарадзіўся ў 1960 годзе ў Саратаўскай вобласці Расіі. Выпускнік тэатральнага вучылішча імя Шчэпкіна. Па размеркаванні апынуўся на Беларускім тэлебачанні. З 2002 года працуе на тэлеканале АНТ. У 2006 яго ўзнагародзілі медалём Францыска Скарыны, а ў 2010 ён атрымаў званне заслужанага дзеяча культуры. З 50-годдзем, між іншым, Аверкава павіншаваў асабіста Аляксандр Лукашэнка, за што яго называюць любімым вядучым кіраўніка дзяржавы.

**Сяргей Макарэвіч**

# Нікому не патрэбныя

**Ад рэдактара**

Шматдзетная сям'я з Маларыцкага раёна дабілася 57 гектараў зямлі. Тэхніку сабралі, лічы, з металалому. За адзін з такіх самаробных трактараў гаспадара і садзяць.
Не бандыты, не алкаголікі, а кінуліся на міліцыянера. Кінуліся абараняць уласнасць!
Мне гэтыя людзі нагадалі першых еўрапейскіх пасяленцаў у Амерыцы. Бельчукі — прагныя зямлі, упартыя, веруючыя і зацята незалежныя. Яны не хочуць ніякай улады над сабой. Але на якіх такую дзяржаву, такое грамадства збудаваць можна! Магутная Амерыка з такіх, непакорных, свавольных, але цягавітых, і паўстала і на такіх і трымаецца.
Так, Бельчукі складаныя. Але яны маюць магутны інстынкт уласнікаў. А гэта дарагога варта, як той казаў.

**Андрэй Дынько**



Бойка ў Страдзічах.

ВЯЧЭРНІ БРЭСТ

На пачатку студзеня адбыўся суд па справе жыхара вёскі Арлянка Маларыцкага раёна Брэсцкай вобласці Аляксандра Бельчука. Канфлікт з дашнікам выліўся ў тры месяцы арышту.

### З сялян — у злачынцы

У маі мінулага года ў вёсцы Страдзічы Брэсцкага раёна інспектар ДАІ Сяргей Неліповіч паспрабаваў канфіскаваць незарэгістраваны самаробны трактар, які да гэтага быў заўважаны на дарозе. Аднак браты Бельчукі — уласнікі транспартнага сродка — не падпарадкаваліся. Дашніку разбілі нос і пракусілі руку. Гэта версія міліцыі.

У Бельчукоў версія іншая. Трактар па вёсцы не ехаў, сцвярджаюць яны. Яго завезлі ў Страдзічы з Арлянкі (раён іншы, але вёска, калі браць праз лес вялікі на 20 кіламетраў, лічы, суседняя) на самаробным лафеце. Завезлі, бо ён спатрэбіўся пляменніку, які там жыве. А потым пачалося.

«Прыбег да мяне брат, кажа: званіў сын, ДАІ трактар забірае. Мы туды. Бачым: стаіць трактар ля гаража. Побач — дашнік, — расказвае «Нашай Ніве» Аляксандр Бяльчук. — І той дашнік кажа: зараз прыедзе эвакуатар забраць трактар. Пытаюся: на якой падставе? Адказвае: я выконваю загад начальніка».

Аддаваць трактар Бельчукі не хацелі. Яны лічаць, што яго ў хацеў «аджаць» адзін высокі чын (не будзем тут яго называць, гэта ж толькі гіпотэза). Кажуць, ніякай паперы аб канфіскацыі супрацоўнік ДАІ не меў. І Бельчукі вырашаюць зацягнуць трактар у гараж, а потым замкнуць дзверы.

«І тут дашнік мне кажа: ну ты, мужык, папаў! Я адказваю: ты як размаўляеш са старэйшымі? І калі ён пачуў гэтае «ты», то схапіў мяне за грудзі, пачаў трэсці, — кажа Аляксандр. — Парваў мне куртку. Паміж намі ўлез мой брат, Мікалай, каб нас расчапіць. Выклікаў Неліповіч участковага. Участковы Сідарук прыставіў мне пісталет да галавы: зараз, кажа, буду страляць. Я кажу: страляй, зорку дабавяць».

### Ну ты, мужык, папаў

Забралі Бельчука ў Брэст, дапытвалі. Толькі а 5-й раніцы яго адпусцілі, і бацька, Іван Бяльчук, забраў сына ў Арлянку.

Аляксандр адразу напісаў шэраг скаргаў. А праз некалькі дзён Бельчука выклікалі да следчага. Ён на той час не мог, папрасіў перанесці на іншы дзень. Атрымаў новую позву — на 10.00 14 чэрвеня.

«Але 14 чэрвеня а 6 ранку ў маю хату ўварваўся АМАП, і мяне ў адных трусах адвезлі ў Брэст. Нібыта я не прыйшоў па позве. Кінулі ў ІЧУ, потым — у СІЗА, дзе я правёў амаль 20 дзён, — кажа Аляксандр. — Але потым абласны суд мяне вызваліў».

Тут дабавім такую дэталь: у Аляксандра Бельчука восем дзяцей. У ягонага бацькі, Івана, — пяць.

Потым было паўгода скаргаў і суд. Вынік — тры месяцы арышту.

Трое Бельчукоў рознага ўзросту, 74-гадовы Іван і два ягоныя сыны, сядзяць вакол мяне і тры гадзіны крычаць аб тым, што той Аляксандр не вінаваты, з запалам пераказваюць супярэчнасці ў паказаннях сведкаў з боку міліцыі.

Што тычыцца сведкаў з боку Бельчукоў, то суд не прызнаў іх паказанняў дакладнымі.

«Адэкватна гэтых людзей я не магу ўспрымаць, вы самі разумееце, — кажа нам інспектар Неліповіч. — За іх адміністратыўнае правапарушэнне я мог бы на месцы выпісаць пастанову — усё б і скончылася. А тое, што яны зрабілі, нармальны чалавек ніколі б не зрабіў. Мне дастаткова таго, што Бельчука прызналі вінаватым. Можа, яны ўсвядомяць памылку. Хоць бы тады на месцы яны падышлі і папрасілі прабачэння... Але ж не, да канца лічаць, што вінаваты я. Яго прызналі вінаватым, і я лічу, што гэта правільна. Але ж у яго васьмёра дзяцей, плюс гаспадарка — мне здаецца, тых трох месяцаў, што ён атрымаў, дастаткова. Можа, ён аб чымсьці задумаецца».



Той самы самаробны «трактар разладу».

Дарэчы, той «трактар разладу» не сканфіскавалі. І Бельчукі яго ўрэшце зарэгістравалі, сплацілі ўсе зборы.

### Хрысціяне

Увогуле, Бельчукі з тых, хто прывык дабівацца свайго. Строгія хрысціяне, якія не п'юць і не кураць, яны робяць зямлю і больш за ўсё бунтуюць, калі ім у гэтым пачынаюць перашкаджаць.

Калі Аляксандр Бяльчук скончыў школу, ён пайшоў у мясцовы калгас кіроўцам грузавіка. «Я працаваў, а не сядзеў. І зарабляў больш за старшыню!» — хваліцца ён.

Потым, калі СССР развалiўся, разам з бацькам сталі фермерамі.

«13 разоў звярталіся, але зямлі ўсё нам не давалі. Але на чатырнаццаты раз, праз суд, нарэшце, мы атрымалі свае надзелы».

Фермеравалі нармальна. Грошай хапала. Нажылі нават сюю-тую тэхніку. Але праз тры гады ўмовы змяняюцца: цяпер фермерская гаспадарка павінна мець бухгалтара. «І што, я павінен быў адарваць грошы ад сваіх дзяцей, каб той бухгалтар перакладаў паперкі?» — разважае Бяльчук.

Ну няма танных бухгалтараў у Арлянцы! У Арлянцы жыве чалавек сорак, а зімой і яшчэ менш — старых забіраюць да сябе дзеці ў горад. Як паходзіш па той Арлянцы, дык здаецца, што, акрамя Бельчукоў, там і няма нікога. Вялікая сям'я, ужо не сям'я — клан, род: тут — сыны, там — пляменнікі.

Карацей, фермерскую гаспадарку сваю Бяльчук палічыў за лепшае ліквідаваць. Але і ў калгас не пайшоў. Згод-

Трапіць у Арлянку няпроста. Спачатку цягнік «Мінск—Брэст». Затым — аўтобус-маршрутка. Пасля выйсці каля Брадзяціна і каля трох кіламетраў прайсці пехатою.

Але ў Брадзяціне мяне сустракае 74-гадовы Іван Бяльчук на старой «Аудзі-80». Іван адвозіць мяне да старой птушкафермы: «Бачылі, як лес на даху расце?». Вакол — пустэча і разруха. «Вы пахадзіце, пахадзіце, — кажа Бяльчук. — Вось так у нас адраджаюць сяло».



У Аляксандра Бельчука восем дзяцей і 57 гектараў зямлі.

на з заканадаўствам, для ўласнай гаспадаркі можна было атрымаць тры гектары зямлі. Бельчукі узялі тыя гектары і жылі спачатку толькі з іх. Потым заканадаўства стала прадугледжваць яшчэ дадатковы гектар на кожную карову. І Бельчукі паспрабавалі гэта выкарыстаць.

### Зямлі дабіўся хітрасцю

«Спачатку адна карова. Потым тры, пяць, — распавядае Аляксандр. — Але і праблемы пачаліся: ужо мае каровы, якія пасвіліся ў агульным статку, аб'ядаюць іншых. А маіх было 15 галоў, і калгасных таксама — 15. Ну добра, даюць мне надзел. Але толькі 4 га, хаця павінны 15. Я пачаў скардзіцца. Званіў на «гарачую лінію» АНТ. Там дзяўчына кажа: нам гэта не цікава. Тады я пішу ліст дырэктару таго АНТ: калі праблемы простага чалавека вам не цікавыя, то на кого вы працуеце? І праз два дні прыехаў землямер, далі мне амаль 20 гектараў. А яшчэ праз дзень прыязджае тэлебачанне: ну што, далі вам зямлю? Кажу, далі. Паказваю, а там усё палынам па грудзі зарасло».

На наступны дзень Бельчука выклікаў старшыня Маларыцкага райвыканкама Лапіч, і Аляксандру далі 21 гектар нармальнай зямлі каля яго хаты. Праца пайшла. Пагалоўе расло, адпаведна, новыя ўчасткі зямлі выдзяляліся. Але калі Бяльчук давёў статак да 70 кароў, яго ўчастак быў усяго толькі 57 гектараў. Больш не давалі: казалі, што не было.

І чапляцца сталі. Бяльчук вырошчваў на некалькіх гектарах то бульбу, то гарбузы. Потым ён прадаваў ураджай і набываў калі камбікорм, калі салому.

«Усё, кажуць, нямэтавае выкарыстанне зямлі. Ізноў пачаліся праблемы. Тады мае дарослыя дзеці напісалі заяву, каб ім далі па тры гектары — на іх бы мы вырошчвалі што хацелі. Не, кажуць, зямлі няма».



Уся Арлянка застаўлена старой тэхнікай Бельчукоў.

Самаробны трактар у Бельчукоў не адзін.

Тут трэба адзначыць, што бал урадлівасці ў Арлянцы вельмі нізкі. Глуш, пяскі залесныя.

### «Я ўсё жыццё ваюю»

«Я ўсё жыццё ваюю», — кажа Аляксандр.

Праблемы, здаецца, самыя яго знаходзяць. У 2009 годзе ў Аляксандра канфіскавалі 200 літраў саляркі — перавозіць больш за 100 літраў было забаронена. Ён звярнуўся ў абласны суд, той паліва не вярнуў, тады Бяльчук напісаў ў Вярхоўны суд і, нарэшце, атрымаў пастанову: «Незаконна канфіскаванае вярнуць». Але тая салярка даўно ўжо была прададзеная праз крамуканфіскат. І Бяльчук у знак пратэсту на нейкі час забараніў тром малодшым дзецям наведваць школу. За гэта яго нават хацелі пазбавіць бацькоўскіх правоў, але ж абышлося.

Прычым не першы раз ён выкарыстоўвае дзяцей, каб дабіцца свайго.

«Яшчэ пры саветах жонка мая не магла работу знайсці. У калгас яе не бралі — і ўсё. Ну, я вырашыў пайсці на крайнюю меру. Прыехаў да старшыні калгаса, пакінуў яму сваіх двух дзяцей, аднаму тры, другому — год, і кажу: на, паспрабуй, пракармі. Жонка ў плач, канечне, але я забраў яе, і мы з'ехалі. І што ж вы думаеце, тэлефануюць: будзе праца, толькі забярыце дзяцей! І на наступны дзень жонку ўзялі на ферму птушніцай».

Але прыкладна ў 2000 годзе ферма зачынілася. Арлянка пусцее.

### Вёска адной сям'і

Людзей у вёсцы амаль няма, цагляныя дамы пакінутыя, толькі ржавая тэхніка скрозь стаіць. На адным падворку селка, на другім — камбайн, на скрыжаванні — стары грузавік. Усё іхняе, усё Бельчукова.

«Няма дзе трымаць, — тлумачыць Аляксандр Бяльчук. — А ў тых дамах усё адно пуста. Пакуль ферма працавала, набудавалі гэтых помнікаў. А потым народ збег».

За такое захоўванне тэхнікі яго штрафуюць — у 2014-м давялося заплаціць каля 2 мільёнаў.

«Яны лічаць, што гэта металалом! А мне на запчасткі іншай няма», — абураецца Бяльчук.

Хоць і праўда, металалому сярод той тэхнікі хапае. Іржавы аўтамабільны кузаў, праз які прарасла трава, — нармальная карціна для Арлянкі.

### І буду я дармаед

Робяць людзі зямлю, выжываюць, выкручваюцца. Восем дзяцей — гэта ж таксама подзвіг, па-свойму. Не на крэдыты, не на льготы паднятыя. Малодшая, непаўналетняя, інвалід з дзяцінства і цяпер пры Аляксандру Бельчуку.

А што дзяржава? А дзяржава Бельчукамі ніколі не цікавілася. Ніхто не імкнуўся іх падтрымаць, дагадзіць, выкарыстаць патэнцыял. Зямлю далі ў рэшце рэшт, вось і ўсё. І во дзіўна гэта, бо Бельчукі — гэта такія «ідэальныя фермеры ў вакууме», бяры і ў падручнік ўстаўляй.

Не п'юць, жывуць вялікімі сем'ямі, робяць дзень і ноч — толькі давай зямлю. Аднак замест дзяржаўнай падтрымкі Бельчукі, як правіла, атрымліваюць новыя і новыя праблемы.

Ніхто не апраўдвае Бельчукоў у выпадку з трактарам. І дашнік тут дзейнічаў па законе. Але то інспектар, яго справа — парадак на дарогах. А райвыканкам, а «ідэолагі», а аддзел сельскай гаспадаркі што? Чаму, напрыклад, замест рэгулярных штрафаў за металалом не дапамагчы Бельчукам неяк вырашыць гэтае пытанне? Бо ж прыбяры гэтую сям'ю з той Арлянкі — і не стане Арлянкі. Колькі вёсак так знікла.

«Зараз прымуць новы закон, і буду я дармаед. Жывём са сваёй зямлі, але афіцыйна мы беспрацоўныя», — пасміхаецца Бяльчук.

Але гучыць гэта не смешна.

**Улад Швядовіч, Арлянка—Мінск**
**Фота аўтара**

## Цэны ў літоўскіх і польскіх гіпермаркетах: дзе танней

Поўныя вазкі тавараў, ля кас — чэргі, перапоўненыя аўтастаянкі — такую карціну можна было назіраць у выходныя ў гандлёвых цэнтрах у Польшчы на літоўскай мяжы. Спалохаўшыся цэн у еўра, пакупнікі змятаюць польскія прадукты, запэўніваючы, што яны нашмат таннейшыя.

Ці так гэта, задалося пытаннем alytusplius.lt.

У крамах у польскіх Сувалках асабліва прыцягваюць цэны на малочныя прадукты, якія значна ніжэйшыя, чым у Літве.

200 г зярністага тварагу каштуе 0,34 еўра (5800 рублёў), у Літве за такую колькасць даводзіцца плаціць 0,85 (14 700).

400 г якаснага ёгурту можна купіць за 0,40 еўра (6900 рублёў), у Літве за 300 г ёгурту, тлустасць якога 2%, даводзіцца плаціць 0,69 еўра (11 900), за большую колькасць — каля 1 еўра (17 300) і больш.

Сыры розных гатункаў у Польшчы таксама таннейшыя, 1 кг добрага жоўтага сыру каштуе 3,88 еўра (67 тысяч). У Літве такі ж сыр каштуе 6,95 еўра (120 тысяч) за кілаграм.

Смятану ў Сувалках таксама можна купіць танней. 400 г смятаны 18-працэнтнай тлустасці каштавала 0,44 еўра (7600). У Літве за 350 г смятаны 15-працэнтнай тлустасці прыйдзецца заплаціць 1,6 еўра (27 600).

Кілаграм мукі найвышэйшага гатунку ў Польшчы каштуе 0,32 (5500 рублёў), у Літве — 0,70 еўра (12 100). Кілаграм цукру ў буйных гандлёвых цэнтрах у Літве каштуе 0,87—0,92 еўра (15 400), у Польшчы за такую ж колькасць трэба плаціць 0,42 еўра (7 200).

Прысмакі ў Польшчы таксама таннейшыя. Шакалад з арэхамі каштуе 0,51 еўра (8800), у Літве за яго трэба плаціць 1 еўра (17 300) і больш.

У Сувалках здзіўляе і цана на газаваную і мінеральную ваду — 1,5 літра каштуе 0,23 еўра (4 тысячы). У Літве — 0,58 еўра (10 тысяч).

У Польшчы можна зэканоміць і купляючы каву, алей, вэнджаныя мясныя вырабы.

У гандлёвыя цэнтры ў Польшчу лепш ехаць раней. Пасля абеду прылаўкі пусцеюць, цяжка знайсці месца для аўтамабіля.

У Польшчы можна зрабіць пакупкі яшчэ таннейшымі, але трэба ведаць месцы, дзе цэны больш прымальныя. Трэба таксама ўлічваць расход бензіну або выдаткі на дарогу.

**Паводле Delfi.lt**

## «Яму хацелася быць бамбардзірам»

Як Лукашэнка **гуляў у футбол**.

На сустрэчы з прэзідэнтам УЕФА, славутым у мінулым французскім футбалістам Мішэлем Плаціні, Аляксандр Лукашэнка сказаў: «Захапляўся вашым бачаннем поля, вашай гульнёй. Кажу гэта як прафесійны ў той час футбаліст».

Пра такі факт ў біяграфіі Аляксандра Лукашэнкі раней чуць не даводзілася. Мы патэлефанавалі педагогу, палітыку, у свой час — калегу Лукашэнкі па Вярхоўным Савеце Лявону Баршчэўскаму, які гуляў у футбол з сённяшнім кіраўніком Беларусі ў камандзе Вярхоўнага Савета.

«Прафесіяналізму там не было, вядома, — смяецца Лявон Пятровіч. — Такая стылістыка хутчэй — «бі — бяжы». Хаця трэба прызнацца, што ўдар у Лукашэнкі быў вельмі моцны, але звычайна недакладны, па верабʼях. Зрэшты, калі мяч добра трапляў на нагу, то адбіць удар было дастаткова цяжка.

Ён быў далёка не лідарам нашай каманды, як тыя ж Юрась Беленькі, Сяргей Антончык, Анатоль Лябедзька. Часта Лукашэнка ўвогуле не дагульваў матчы, бо ў яго са спінай былі праблемы.

Мы гулялі ў асноўным у мініфутбол ва Уруччы. Была некалі таварыская гульня са зборнай Вярхоўнай Рады Украіны. Помню, што прайгралі даволі разгромна, бо ва ўкраінскай радзе было два прафесіяналы. Пасля гульні білі пенальці, прычым усёй камандай. Я адбіў шэсць удараў. Лукашэнка ж ударыў высока-высока, вышэй за усе брамы і нават загараджальную сетку.

Ён казаў, што некалі гуляў за каманду свайго саўгаса, таму і лічыць сябе прафесіяналам».

Старшыня АГП Анатоль Лябедзька таксама ўзгадвае досвед гульні Лукашэнкі. «Лукашэнка — прафесіянал? Калі-нікалі і лаўку запасных яму даводзілася паліраваць. Я б сказаў, што гэта быў гулец на мяжы асновы і запасу. Прафесіяналаў сярод нас не было.

Лукашэнка нават у тыя часы быў не надта хуткім футбалістам, любіў пацягаць мяч, а футбол — гэта ж гульня калектыўная, а не стаерскі бег. Часта пазбягаў чарнавой працы, яму ўвесь час хацелася быць бамбардзірам, хоць здольнасцяў такіх і не было.

Калі было нейкае сутыкненне, усё ж гэта мужчынская гульня, то Лукашэнка пасля мог і адпомсціць. Мы ўсе гэта ведалі, таму лішні раз не рызыкавалі ісці з ім у стык».



**Запісаў Зміцер Панкавец**

Гісторыя жыцця **галоўнага аграрыя** краіны.

# Непатапляльны Міхаіл Русы: міністр пры ўсіх прэм'ерах

Падчас кадравых перастановак ва ўрадзе, якія ў снежні зладзіў Лукашэнка, віцэ-прэм'ер Міхаіл Русы мог злавіць сябе на адчуванні дэжавю.

Калісьці гэтаксама гучна з пасады выкідалі яго — тагачаснага міністра сельскай гаспадаркі. Што раззлавала Лукашэнку ў 2003-м? У справаздачах чыноўнікаў было напісана, што работнікам калгасаў выплацілі заробкі і разлічыліся за здадзеныя прадукты. А насамрэч, запэўніваў кіраўнік дзяржавы, было інакш.

Прыпіскі тады былі падставай для адстаўкі прэм'ер-міністра Генадзя Навіцкага, віцэ-прэм'ера Аляксандра Папкова, а таксама Міхаіла Русага. Яшчэ з дзясятак чыноўнікаў атрымалі вымовы.

Пракуратуры і КДК тады было загадана завесці крымінальныя справы, але на наступны дзень Лукашэнка змяніў гнеў на міласць. «Яны не павінны быць выкінутыя на вуліцу», — вырашыў ён і загадаў знайсці звольненым чыноўнікам новае месца працы. Напрыклад, Навіцкі атрымаў сінекуру, стаўшы спікерам савета рэспублікі (такім жа шляхам цяпер накіраваўся Міхаіл Мясніковіч).

А вось Русага зрабілі кіраўніком беларускага прадстаўніцтва ў Санкт-Пецярбургу, а ў 2004-м ён вярнуўся на радзіму, каб пачаць чарговы ўзыход па наменклатурнай лесвіцы. Праз дзесяцігоддзе пасля ганебнага звальнення ён фармальна ўваходзіць у дзясятку самых высокіх чыноўнікаў краіны.



**Падчас «Дажынак-2013» у Жлобіне Русы сустрэў русалку і загадаў жаданне: «Каб Бог пастаянна жыў у Беларусі».**

### Старшыня калгаса з партыйнымі перспектывамі

Будучы наменклатурны дзеяч нарадзіўся за некалькі кіламетраў ад Турава. Непадалёку цячэ Прыпяць. Ягоная вёска Вароніна апынулася паміж больш магутнымі вёскамі і цяпер патроху вымірае. Сярод сваякоў Міхаіла Русага ў роднай вёсцы засталася толькі стрыечная сястра. Родная хата віцэ-прэм'ера стаіць пустая, ягоныя бацькі прыязджаюць сюды рэдка. Сын перавёз іх у Стоўбцы.

Іван і Надзея Русыя паходзяць з Вароніна. Бацька чыноўніка быў конюхам, а маці працавала ў Тураве. У сям'і раслі трое сыноў.

«Старэйшы Міша быў ціхенькі, худзенькі. І вучыўся добра», — узгадвае сваячка. Базавую школу ён скончыў у сваёй вёсцы, а ў старэйшыя класы хадзіў у суседнюю Верасніцу.

«Дзяцей выхоўвай так, каб сваім розумам усяго дасягалі!» — раіў Міхаіл стрыечнай сястры.

Сам ён паступіў у сельскагаспадарчую акадэмію ў Горках. Дарэчы, падчас вучобы пазнаёміўся з будучай жонкай. Тамара фігуравала ў спісе работнікаў землеўпарадкавальнай службе Мінаблвыканкама.

Атрымаўшы дыплом, Русы вярнуўся на Жыткавіччыну і стаў працаваць у калгасе ў Марохараве. За некалькі гадоў ён узняўся з пасады галоўнага агранома да старшыні калгаса. А ў сям'і тым часам нарадзілася старэйшая дзіця. Усяго ж у Русых дзве дачкі.

**Міхаіл Русы**

Нарадзіўся ў 1954 годзе ў вёсцы Вароніна Жыткавіцкага раёна.

Скончыў Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію (1977), Мінскую вышэйшую партыйную школу (1989).

У 1977—1983 — галоўны аграном, намеснік старшыні, старшыня калгаса імя Леніна Жыткавіцкага раёна, у 1983—1985 начальнік упраўлення сельскай гаспадаркі Кармянскага райвыканкама. У 1985—1991 — на партыйнай службе ў Карме і Стоўбцах.

У 1991—1994 — старшыня Камітэта па зямельнай рэформе і землеўпарадкаванні. У 1994—2001 — міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя, у 2001—2003 і 2010—2012 — міністр сельскай гаспадаркі і харчавання

У 2003—2004 — кіраўнік аддзялення пасольства Беларусі ў Санкт-Пецярбургу.

У 2004—2012 — дэпутат палаты прадстаўнікоў, старшыня пастаянных камісій.

З 2012 — віцэ-прэм'ер.

Жанаты. Мае дзвюх дачок.

Маладога старшыню ў 1983-м перавялі ў Карму. Праца непасрэдна на зямлі для яго скончылася. Русы стаў начальнікам упраўлення сельскай гаспадаркі ў райвыканкаме. А заадно паступіў у Мінскую вышэйшую партыйную школу, якая малявала перад ім шырокія далягляды. У Карме ён паспеў пабыць яшчэ другім сакратаром райкама КПБ, пасля чаго быў пераведзены ў Стоўбцы.

Кармянскую раённую інспекцыю дзяржтэхнагляду, дарэчы, узначальвае сярэдні з братоў Русых — Сцяпан.

У Стоўбцах Міхаіл стаў першым сакратаром райкама КПБ. А таксама ўзначаліў камісію па пераходзе на рынкавыя адносіны.

### Асцярожны рэфарматар Русы

Як ён тады ўяўляў рэформы? «Дзе гарантыя, што рынак не стане своеасаблівым магільшчыкам калгасаў і саўгасаў, фермерскіх гаспадарак і падвор'яў. Ды і вёску ён можа зруйнаваць ушчэнт», — засцерагаў ён, прэзентуючы ў канцы 1990-га свае прапановы. Ніякіх рэзкіх нормаў — сярод ягоных ідэй гучала ўвядзенне дзяржаўнага заказу для падсобных гаспадарак, а таксама прыярытэтнае будаўніцтва жылля ў вёсках.

У асабістых пытаннях справа рухалася спрытней. Хату ў Стоўбцах тагачасны першы сакратар і старшыня раённага Савета народных дэпутатаў па сумяшчальніцтве паспеў прыватызаваць яшчэ да развалу СССР. Менавіта тут з цягам часу пасяліліся бацькі Русага.

У 1991-м партыец пайшоў на павышэнне: ён узначаліў Камітэт па зямельнай рэформе і землеўладкаванні пры Саўміне БССР.

Калі пасля абвяшчэння незалежнасці наспела неабходнасць рабіць паўнавартасную зямельную рэформу, адзін праект прапанавала дэмакратычная апазіцыя, іншы фармулявала камісія Русага.

«Мне расказвалі, што на Брэстчыне ўжо аб'явілася дзевяць спадкаемцаў пана Патоцкага. І ўсе яны прэтэндуюць на землі, якія некалі належалі сямейству.



**У памяці інтэрнаўтаў чыноўнік запомніўся фотаздымкам з гіганцкай буханкай хлеба. Так Русы (справа) выглядаў на цырымоніі адкрыцця італьянскай лініі па выпуску кандытарскіх вырабаў на «Магілёўхлебпраме».**

А што застанецца тым, хто столькі гадоў жыў на гэтай зямлі і даглядаў яе? Загнаць у кабалу?» — Русы заклікаў не спяшацца з прыняццем новага закона. У выніку Вярхоўны савет, у якім большасць складалі камуністы і аграрыі, прагаласаваў за ягоны, больш лагодны, варыянт. Калгасы засталіся дагэтуль, фермерства так і не атрымала шырокага распаўсюду.

### Міністр пры ўсіх прэм'ерах

Пасля прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі Русы трапіў на міністэрскую пасаду не адразу.

Першым міністрам прыродных рэсурсаў (ведамства было ўтворана замест Дзяржаўнага камітэта па справах экалогіі) быў віцебскі навуковец-арнітолаг Анатоль Дарафееў. Яшчэ ў савецкія часы ён выступіў супраць будаўніцтва ў Беларусі новай АЭС. А пасля адстаўкі заняўся краязнаўствам — вывучаў творчасць Яна Баршчэўскага.

Ягонае месца ва ўрадзе Міхаіла Чыгіра ў кастрычніку 1994-га заняў Міхаіл Русы. Адметна, што на пасадзе міністра ён здолеў папрацаваць пры ўсіх прэм'ер-міністрах лукашэнкаўскай Беларусі.

Галоўнай экалагічнай праблемай заставаліся наступствы Чарнобыльскай катастрофы, аднак гэтым займалася асобнае міністэрства.

Русага ж вабіла сельская гаспадарка. У афіцыйнай біяграфіі ён прадстаўляўся як «навуковец-аграном». Некалькі ягоных артыкулаў у газетах 1980-х былі прысвечаныя вапнаванню глебы, а таксама фосфагіпсу.

У 2001-м Русы стаў міністрам другі раз — цяпер яму даручылі адказваць за сельскую гаспадарку.

Што ў гэты час адбывалася ў прыватным жыцці чыноўніка? Сваю чатырохпакаёўку каля Камароўкі ён падарыў старэйшай дачцэ, а сам разам з жонкай пабудаваў яшчэ адну чатырохпакаёўку. Кватэра плошчай больш за 110 м² знаходзіцца непадалёку ад аэрапорта «Мінск-1». Русыя якраз паспелі скончыць будаўнічыя справы за некалькі месяцаў да гучнай адстаўкі.

### Дэпутат ад «вертыкалі»

У Пецярбургу экс-міністр правёў менш за год. Тут, дарэчы, жыў ягоны малодшы брат Іван, які памёр некалькі гадоў таму.

Неўзабаве Русаму дазволілі вярнуцца ў беларускую палітыку. У 2004-м ён балатаваўся ў палату прадстаўнікоў ад Жыткавіч. Ягоным супернікам стаў апазіцыйны камуніст, заатэхнік мясцовага калгаса Міхаіл Сілівонец. Русы трапіў у парламент, дзе ўзначаліў камісію па аграрных пытаннях.

Праз чатыры гады ён вырашыў працягнуць свой мандат. Змагацца зноў давялося з камуністам Сілівонцам, а яшчэ са сталічным доктарам Сяргеем Карнеўцом. Аднак і ў гэтым выпадку статус кандыдата ад вертыкалі дазволіў Русаму ўбачыць пераможны вынік у пратаколе. На час працы ў гэтым скліканні яму даручылі кіраваць экалагічнай камісіяй.

Калі на першыя выбары Русы ішоў як беспартыйны кандыдат, то на другія — ад Беларускай аграрнай партыі.

Ён дзейны лідар палітычнай партыі, хоць і незаўважнай.

Паказальны факт пра ягоную арганізацыю: у 2009-м, на наступны год пасля абрання Русага кіраўніком, «аграрыі» атрымалі папярэджанне ад Мінюста, бо забыліся даслаць інфармацыю пра сваю дзейнасць.

### Вяршыня кар'еры

У маі 2010 тагачасны міністр сельскай гаспадаркі Сямён Шапіра пайшоў на павышэнне — стаў кіраўніком Гродзеншчыны. А Лукашэнка зноў узгадаў пра Русага. Так дэпутат стаў міністрам трэці раз.

Яшчэ праз два гады чыноўніка чакала чарговае павышэнне — да пасады віцэ-прэм'ера па аграрных пытаннях.

Як Міхаіл Русы ўяўляе сабе сучаснага селяніна? «Гэта малады, прыгожы, упэўнены ў сабе чалавек, добры гаспадар і сем'янін, рознабакова развіты і з актыўнай грамадзянскай пазіцыяй ... Як правіла, ён жыве ў прасторным доме з газавым ацяпленнем і цэнтральным водаправодам, мае легкавік замежнай вытворчасці 7—10 гадоў эксплуатацыі, трактар і грузавую тэхніку на ўласным падворку», — казаў ён два гады таму.

Па апошніх падліках Белстата, сярэдні заробак работніка сельскай гаспадаркі ледзь-ледзь перавышае 4 мільёны рублёў «чыстымі».



**Летам 2013-га Міхаіл Русы рэалізаваў мару беларускага селяніна — займеў уласную зямлю. Прычым не абы-якую, а ў элітным раёне Вяснінка («Дразды-2»). Па рынкавых цэнах зямля з домам тут каштуе каля $1 мільёна.**

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# «А яна хацела паміраць у 20 гадоў?»

**У Гомелі судзяць кіроўцу, які насмерць збіў студэнтку Алесю і пакалечыў яе сяброўку Таісу.**



У судзе Цэнтральнага раёна Гомеля пачаўся разгляд рэзананснай справы — жудаснага ДТЗ у мікрараёне Валатава. Пад коламі «Мазды» загінула 20-гадовая студэнтка Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта транспарту Алеся. Яе сяброўка Таісія, студэнтка Віцебскага медыцынскага ўніверсітэта, атрымала шматлікія цяжкія траўмы і да гэтага часу праходзіць лекаванне. Дзяўчына часткова паралізаваная, у яе знявечаны твар. Кіроўца ж не меў правоў.

Маці і бацька Алесі да гэтага часу не могуць ачуняць, як і яе 15-гадовы брат. «Яна была такая прыгожая, руплівая, мэтанакіраваная! Вучылася на бюджэце, сесію здала на восем. Яна была мая адзіная пляменніца, наша радасць і надзея. Мы жартавалі, маўляў, вось скончыш вучобу — адбудуеш бабульчын дом у вёсцы, бо яна вучылася па спецыяльнасці «рэканструкцыя будынкаў». Наколькі я ведаю, сябра ў яе не было. Яна вучылася, вельмі старалася, лічыла, што ў яе ўсё наперадзе. Гэта невыносна», — гаворыць цётка загінулай.

Зайшоўшы ў судовую залу, маці Алесі падышла да шкляной клеткі, у якой сядзеў абвінавачаны, 21-гадовы Дзмітрый. Спрабавала нешта яму сказаць і не змагла — задрыжалі вусны, яна скаланулася ад рыданняў.

Абаронца абвінавачанага просіць суд прыкласці да справы хадайніцтва ад суседзяў Дзмітрыя, якія падпісаліся, што ён спагадлівы, камунікабельны, заўсёды прыходзіць на дапамогу. «Адукацыя — сярэднеспецыяльная. Жанаты, дзяцей няма. Працую машыністам бульдозера», — на пытанні суддзі анкетна адказвае сам хлопец. Яго вінавацяць у парушэнні ПДД, якое пацягнула смерць па неасцярожнасці, і ў крадзяжы. Выявілася, што раней Дзмітрый з сябрам скраў у краме па дзве бутэлькі піва «Александрыя». Кінуліся ўцякаць, але ў той жа вечар былі затрыманы міліцыяй. Па дадзеным эпізодзе Дзмітрый адказвае лаканічна: «Не памятаю». Але даводзіць, што крадзеж быў не ў складзе групы і без змовы. Маўляў, сябар сам скраў піва, а ён — сам сабе, без папярэдняй змовы.



**Дзмітрый у 21 год можа адправіцца за краты.**

Высвятляючы абставіны аварыі, зачытваюцца парушэнні розных пунктаў ПДД. Дзмітрый стараецца адбіцца ад некаторых. Маўляў, не мог праверыць стан аўтамабіля перад паездкай, таму што «не валодаў тэарэтычнымі ведамі і практычнымі навыкамі па рамонце аўтамабіля».

Паводле абвінавачвання, 26 жніўня Дзмітрый, не маючы пасведчання кіроўцы, сеў за руль няспраўнай Mazda Xedos 6. Перавысіў хуткасць, выскачыў на тратуар і збіў дзвюх дзяўчат. Яны стаялі на прыпынку. Аўтамабіль перакуліўся, але кіроўца і пасажыры — п'яная кампанія — не пацярпелі. У адрозненне ад дзяўчат, якія мірна чакалі транспарт. Да дома Алесі заставалася два прыпынкі.

Пракурор каля дзесяці хвілін пералічвае траўмы ахвяры і пацярпелай: закрытыя чэрапна-мазгавыя, пераломы чэрапу, касцей ног і рук, крывазліццё, разрывы ўнутраных органаў... Сваякі ў зале стрымлівалі слёзы.

Абвінавачаны расказваў пра той вясёлы для яго кампаніі летні дзень. Сябры пілі, і таму прапанавалі Дзмітрыю сесці за руль, бо ён быў цвярозы. Аўтамабіль належаў яго сябру, з якім раней ён скраў піва ў краме. Пілі і весяліліся. Паехалі на Сонечную (апошні прыпынак у межах Гомеля, у бок Рэчыцы). «Хлопцы захацелі да дзяўчат», — распавядае абвінавачаны, хіхікае пры гэтым. На Сонечнай звычайна стаяць «дзяўчаты лёгкіх паводзін». Там правялі з гадзіну. Паехалі «даганяцца». Сустрэлі сяброў. Паехалі з імі ў начны клуб. Нарэшце выехалі дахаты, на Валатаву. Нясліся з невядома якой хуткасцю. Па першых паказаннях Дзмітрыя, каля 70—80 км/ч. Аўтамабіль пачаў хістацца. Але Дзмітрый не спыніўся. Вылецелі на прыпынак. Пазбавілі жыцця Алесю, знявечылі Таісію. «Я непасрэдна не наязджаў на іх, я іх не бачыў. Аўтамабіль слізгаў бокам, пры гэтым натыкаўся на нейкія прадметы, збудаванні», — даводзіць хлопец.

Чарга даходзіць да бацькі Алесі. Ён дае паказанні як пацярпелы. Апошні раз бачыў дачку ў той вечар каля 21.00. Вячэралі разам, потым Алеся выйшла прайсціся з сяброўкай, як часта рабіла перад сном. Каля 3 гадзіны ўначы бацькам патэлефанавалі з ДАІ, паведамілі, што іх дачка ў шпіталі. Паехалі туды. Сядзелі пад дзвярамі рэанімацыі. У 8.45 раніцы ім сказалі пра смерць дачкі. Бацька пасля невыноснага слова «памерла» не змог больш прамовіць ні слова.

Перад бацькамі дзяўчат Дзмітрый выбачыўся толькі пасля адпаведнай падказкі адваката.

Пасля пасяджэння да бацькоў дзяўчат падышла маці абвінавачанага, прасіла прабачэння і маліла пашкадаваць яе сына. «Ну прабачце вы нам, ён не хацеў, ён не хацеў!» — крычала маці Дзмітрыя. «А яна хацела паміраць у 20 гадоў?» — пытаюцца сваякі Алесі. Маладая дзяўчына побач з маці Дзмітрыя (ці яго сястра, ці жонка) істэрычна плакала і крычала: «Я хацела б быць на яе месцы! Ну прабачце нам!» Маці Дзмітрыя дадавала: «Пашкадуйце, яна вось цяжарная!»

Разгляд справы працягваецца.

**Юлія Шымкевіч**

# Фермера спалілі за доўг

**З 27-гадовым дырэктарам фермерскай гаспадаркі расправіліся крэдыторы.**

Як паведамілі ва ўпраўленні Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці, цела дырэктара з прыкметамі гвалтоўнай смерці знайшлі вечарам 11 студзеня ў лесе ў Іванаўскім раёне. Цела было знявечана.

27-гадовы Аляксандр гадаваўся без бацькі — жыў з маці ў вёсцы Малоткавічы Пінскага раёна. Быў адзіным дзіцем. Як вырас, вырашыў заняцца фермерствам. Узяў у суседнім сельсавеце зямлю, купіў тэхніку і пачаў вырошчваць агародніну.

На праваслаўныя Каляды адправіўся ў вясковую кавярню. І ўжо маці патэлефанаваў, што вяртаецца, але дома так і не з'явіўся. А праз чатыры дні яго абгарэлае цела знайшлі ў лесе ў Іванаўскім раёне паляўнічыя.

Па падазрэнні ў жорсткім забойстве супрацоўнікамі органаў унутраных спраў затрыманыя



двое жыхароў Пінскага раёна. Аднавяскоўцы.

У Малоткавічах ведаюць некаторыя акалічнасці здарэння: бачылі следчы эксперымент у вёсцы. Аляксандр ужо кіраваўся дадому, калі яго ззаду стукнулі па галаве і зацягнулі ў машыну. Вывезлі ў лес. А там забілі і спалілі. Усё праз грошы — грошы ім фермер не вярнуў. Але што гэта за даўгі такія, што яны пераважылі чалавечае жыццё.

Заведзеная справа за забойства, учыненае з асаблівай жорсткасцю.

**СМ**

# Задушылі дачку, а праз паўгода ледзь не забілі і сына

**У смерці немаўляці вінавацяць родных бацькоў.**

Паўгода труп дзіцяці праляжаў у замкнёнай кватэры. І мог праляжаць яшчэ столькі ж, каб не выпадак. Жудасны выпадак.

8 студзеня на лесвічнай пляцоўцы ў адным са шматпавярховікаў Гомеля пачаўся пранізлівы плач дзіцяці. На калідоры стаяла люлька, у якой ляжаў маленькі хлопчык — бацькоў побач не было. Жыхарам дома давялося выклікаць міліцыю. Пры дзіцяці быў цэтлік з радзільні — адвезлі ў бальніцу. І пачалі высвятляць, хто ж маці. У радзільні жанчыну апазналі. Вось толькі знайсці яе адразу не атрымалася.

31-гадовая Віялета ў бальніцы пры родах пакінула матчын адрас. Але там яе не бачылі паўгода: як сышла з сужыцелем, так і не з'яўлялася больш. Праз тры дні абаіх, Віялету і 35-гадовага Максіма, адшукалі ў адным з прытонаў горада. Адпірацца не сталі. Калі ж ім прыгадалі, што маюць яшчэ і 9-месячную дачку, якой пры іх не было, адправілі міліцыянтаў на кватэру. Маўляў, дачушка спіць там.

На кватэры міліцыянты былі шакаваныя: замест жывога дзіцяці ўбачылі муміфікаваны труп. Паўгода мёртвая дзяўчынка праляжала ў калясцы. Мяркуецца, што сужыцель Віялеты, імаверны бацька дзіцяці, задушыў дзяўчынку. Ён патрабаваў грошы ад цяжарнай сужыцелькі, якія тая атрымлівае на дзяцей. А жанчына аддала іх сваёй маці — бабуля гадуе траіх яе іншых дзяцей. У запале Максім і задушыў малую. А пасля забойства парачка замкнула кватэру і з'ехала. А калі нарадзіўся і сынок, падкінулі яго.

Заведзена крымінальная справа. За забойства малалетняга дзіцяці бацьку прадугледжана пакаранне ажно да расстрэлу.

**Кастусь Матушыч**

## Сцісла

### Спампаваў бальнічны з інтэрнэту

Гамяльчук паказаў на працы падроблены лісток непрацаздольнасці, які спампаваў з інтэрнэту. Падробку выявілі: пільная кадравіца праверыла дакумент у бальніцы. Цяпер на 18-гадовага хлопца завялі крымінальную справу.

### Сышліся на нажах

Вечарам 12 студзеня на беразе Нёмана ў Гродне 18-гадовы хлопец вучыў свайго 15-гадовага прыяцеля прыёмам самаабароны з выкарыстаннем нажоў. Малодшы не здолеў ухіліцца ад удару і атрымаў раненне нажом у жывот. Хлопцы спалохаліся і вырашылі ўсё абставіць як напад: старэйшы парэзаў жывот і сабе, а пасля выклікаў «хуткую». Знаходзяцца ў бальніцы. 18-гадовага будуць судзіць.

### Скралі з гаража $17 000

46-гадовы жыхар Слуцка выявіў, што ў яго ў перыяд між 11 і 13 студзеня з гаража скралі 17000 даляраў. Гараж у двары дома быў адамкнёны, а даляры захоўваліся там у шафе.

**КМ**

# Дзякуй, расіяне, за эмбарга!

У выніку эмбарга на пастаўкі сельгаспрадукцыі з Еўрасаюза ў Расію еўрапейскія вытворцы садавіны і гародніны прадаюць тавар па сабекошце, абы не прападала дабро. У выніку ў Беларусі можна набыць выдатныя польскія яблыкі па паўдаляра за кілаграм, грушы за даляр і так далей па спісе. У мінулыя гады цэны былі мінімум удвая большыя.
Дарагія расіяне, дзякуй вам за эмбарга. Беларусы ад'ядуцца вітамінамі. Беларуская сельгаспрадукцыя часта не вытрымлівае канкурэнцыі з еўрапейскай.





**На фота: польская морква за 5400, мытая, адна ў адну... І беларуская морква за 5450, нямытая, дробная, пабітая.**
**Ну і хто ж будзе тут «купляць беларускае»?**
**Фота зроблена ў «Еўраопце» (Мінск, Каменная Горка, 17 студзеня).**

## За Плутонам могуць хавацца яшчэ дзве планеты Сонечнай сістэмы

Навукоўцы з Мадрыдскага ўніверсітэта «Камплутэнсэ» (Іспанія) лічаць, што ў Сонечнай сістэме ёсць яшчэ дзве планеты, якія астраномам пакуль адкрыць не ўдалося. На думку даследчыкаў, гэтыя планеты знаходзяцца за арбітай Нептуна — самай далёкай ад Сонца планеты (пасля таго, як Плутон быў пазбаўлены гэтага статусу).

Да такой высновы навукоўцы прыйшлі, назіраючы за поясам Койпера, размешчаным далей за арбіту Нептуна. Асаблівасці арбіт, якія складаюць пояс абломкаў, ясна сведчаць, што на іх уплывае гравітацыйнае прыцягненне нейкіх нябачных для нас аб'ектаў. Іх колькасць дакладна невядома, але найбольш верагоднае тлумачэнне — наяўнасць як найменш дзвюх планет памерам з Зямлю або буйнейшых, «схаваных» за Плутонам.

Калі здагадкі навукоўцаў будуць праўдзівымі, колькасць планет у Сонечнай сістэме зноў вырасце, а падручнікі астраноміі прыйдзецца перапісваць.

**Лявон Максюта**




## Дарка і Арцём — самыя папулярныя імёны

**Топ-10 самых папулярных імён** хлопчыкаў і дзяўчатак у Гродне.

Дар'я (Дарка) стала самым папулярным дзявочым іменем у 2014 годзе, распавяла начальніца аддзела ЗАГС Гродзенскага гарвыканкама Галіна Казакова. Гэтае імя абышло Соф'ю (Зосю), якое было найбольш запатрабаваным у 2013-м, піша «Гродзенская праўда».

У дзясятцы самых папулярных імёнаў аказаліся яшчэ Настасся, Марыя, а таксама тая Соф'я і далей — Ксенія, Паўліна, Валерыя, Мілана, Арына, Вікторыя.

Адзінкава сустракаліся Агнешка, Адэліна, Амелія, Апалінарыя, Бажэна, Віта, Дзіўяна, Ясенія, Еўфрасіння, Марцаліна, Меліса, Афелія, Сафі-Марыя і Сафія-Меліс.

Тройка самых папулярных імёнаў хлопчыкаў — Арцём, Максім, Аляксандр.

Часта сустракаліся таксама імёны Мацей, Мікіта, Аляксей, Кірыла, Міхась, Уладзіслаў, Зміцер, Ягор ды Іван.

Адзінкава сустрэліся Лучазар, Марсэль, Мілан, Рычард, Рамуальд, Эдгар, Еўпацій, Елісей, Фелікс і Пятрусь.

**Меркаванне**

## Я заклікаю верыць у Бога



Піша **Віктар Марціновіч**.

Адметнасць вайны, што абвешчаная стралянінай у французскім часопісе Charlie Hebdo, — не ў тым, што гэта цывілізацыйнае супрацьстаянне ісламскага і хрысціянскага свету. Калі б гэта было так, мы, еўрапейцы, мелі б хоць які шанец.

Большасць каментатараў не заўважае простай і страшнай праўды: мы даўно ўжо страцілі здольнасць весці палеміку пра Бога. Адным смешна, другім «не навучна», для трэціх адзінае, пра што варта спрачацца, — гэта трансгендар і правы меншасцяў. Пакуль ісламскія фундаменталісты забіваюць у імя Алаха, мы кажам — не, не пра хрысціянскую міласэрнасць, не пра дараванне, а пра дэмакратычныя каштоўнасці і талерантнасць. Класічны выпадак таго, як гэтае пытанне ўспрымаецца сучасным лібералам: аўтар выбудоўвае развагі вакол таго, ці варта нам саступаць у плане карыкатур на прарока, не разумеючы, што нікога ў арабскім свеце пытанне правоў чалавека і свабоды СМІ ў нашым, еўрапейскім, яго прачытанні проста не цікавіць. Працягвайце маляваць карыкатуры — мы працягнем вас забіваць.

Довады і логіка — атрыбуты нашай старой і стомленай культуры. Тая культура — ірацыянальная, яна фундуецца не логікай, а містычнымі інтуіцыямі. Хочаце хаця б паспрабаваць зразумець, пра што я кажу, — паслухайце ўважліва Мусліма Гаўза ці хаця б проста пачытайце пра ягонае жыццё, смерць і светапогляд.

Яны вядуць джыхад — кожны па-свойму (бо джыхад можа палягаць у чытанні кніг і выкараненні цемрашальства), мы ж крычым пра тое, што «талерантнасці і мультыкультуралізму кінуты чарговы выклік». Камон, ачомайцеся, які мультыкультуралізм? Думаеце, воін святла, націскаючы на кнопку выбухоўкі, думае пра гэты ваш мультыкультуралізм?

Мы спрабуем перамагчы іслам з дапамогай лагічнага апарату еўрапеізаванага навуковага атэізму, супакойваючы сябе тым, што еўрапейская цывілізацыя нібыта ўсё яшчэ трымаецца на хрысціянскіх каштоўнасцях.

Што цікава, і той свет, прасякнуты містычнай духоўнасцю, мы вымяраем з пазіцый уласнай атэістычнай сапсаванасці. Анатоль Ульянаў сцвярджае, што Бог састарэў і не пасуе сучаснасці, што людзей, якія вераць, што на аблоках жыве магічны чалавечак, трэба ізаляваць, як і любых небяспечных псіхаў. Але Ульянаў феерычна памыляецца, бо ў той час, як ён рассякае па Амерыцы, фундаменталізм робіцца хіба што не асновай сучаснага чалавечага светапогляду, які пануе ў тым Новым Сярэднявеччы, якое паглынае нас разам з нашымі планшэцікамі, айфончыкамі і электрамабільчыкамі.

Уважліва паглядзіце на тэрыторыю, якую кантралюе гэтая новаствораная дзяржава, ідэнтычнасць якой трымаецца толькі на адным — на рэлігіі, якую яны вызнаюць. Заўважым, што непасрэдна перад стралянінай у Charlie Hebdo часопіс наважыўся пасмяяцца з лідара ISIL — так што яшчэ пытанне, за што загінулі журналісты — за прарока ці за ягонага слугу (у братоў Куашы не запытаешся).

Абазнаныя людзі расказалі мне пра гэтую дзяржаву трохі болей, чым пра яе не кажуць па тэлебачанні. Яны захопліваюць гарады, адзін за адным, проста пасылаючы туды машыны з кулямётамі і гучнагаварыцелямі, па якіх транслюецца просты мэсідж: усе мужчыны ад гэтага моманту мабілізаваныя ў армію ISIL, не хочаш ваяваць — плаці водкуп золатам. Яны ўзнавілі рабства: дзяўчат у захопленых вёсках бяруць у палон і гандлююць імі як нявольніцамі.

Кажу, гэта новае сярэднявечча.

Пры гэтым яны кантралююць нафтавыя палі Ірака і Сірыі; на іх здабычу паспрабавалі накласці эмбарга, і тады яны пачалі зліваць нафту на чорны рынак па цане $20 за барэль — ім хапае, у іх бюджэт — некалькі мільярдаў, на іх працуюць найлепшыя фінансісты і прапагандысты свету. Паглядзіце, на якім высокім мастацкім узроўні зробленыя іх відосы і якія файны оксфардскі англійскі ў дыктараў, якія матывуюць адсячэнне галоваў. Да іх арміі кожны месяц далучаецца тысяча заходніх спецыялістаў, прычым — што падкрэсліваецца — не ў якасці наёмнікаў, а ў якасці валанцёраў.

Ніхто не ведае, адкуль яны ўзяліся (у мяне асабіста ёсць адчуванне, што на першым этапе гэтых марозаў моцна фінансавала адна вялікая заходняя краіна, якая хацела такім чынам аслабіць Асада), але іх аднолькава баяцца і ў Ватыкане, і ў Маскве, якой ISIL паспеў абвесціць нешта кшталту вайны за Чачню (а Кадыраў абяцаў абараняць Расію разам з сяброўскім чачэнскім народам).

І вы кажаце, што Бог — анахранізм? Бог — не сучасны?

Прычым не варта думаць, што фундаменталізм уласцівы выключна ісламу — напрыклад, вось тут аўтар рускай «Камсамолкі» расказвае, як у Лівіі яго не забілі радыкальныя ісламісты толькі таму, што ён дастаў іконку з 90-м псалмом і пачаў гучна маліцца праваслаўнаму Богу. Чытаючы расійскую рэакцыю на выпадак Charlie Hebdo, не можаш пазбавіцца адчування, што свой фундаменталізм паўстае і тут — як рэакцыя на еўрапейскія санкцыі, як жаданне супрацьпаставіць сябе свету.

Але дыскусія тут зноў разгортваецца на ўзроўні атэістычнай логікі, праваслаўе выкарыстоўваецца не як вера, а як інстытут, як прылада для разваг, хто тут гей, а хто не (гл. заўвагі пра «асакціньванне» еўрапейцаў ва ўжо згаданай публікацыі «Камсамолкі»).

І зразумела, што кожны тут вырашае сваю задачу: рускія патрыёты прагінаюцца перад Пуціным, французскія правыя намагаюцца выцісну з гісторыі Charlie Hebdo максімум электаральнай падтрымкі. Іслам, у сваю чаргу, знаходзіцца прыкладна на той жа ступені актыўнага развіцця, на якой каталіцызм быў хіба што падчас крыжовых паходаў.

Уся наша цывілізацыя, якую мы прызвычаіліся называць «хрысціянскай» і якая насамрэч з'яўляецца атэістычнай, на тле актыўнага, жывога ісламу церпіць цяпер цывілізацыйную паразу.

Я не заклікаю ваяваць, я заклікаю верыць у Бога.

Ці хаця б проста вызначацца, дзе ён, той наш хрысціянскі Бог: у шопінгу, на мітынгу ў падтрымку свабоды слова ды мультыкультуралізму, у віннай краме ці кабінеце псіхааналітыка.

Budzma.org

# У чым цяпер выгадна захоўваць грошы?

**Параўнанне даходнасці** валютных і рублёвых дэпазітаў.

Беларусаў не трэба вучыць фінансавай граматнасці. Адчуўшы ў паветры подых дэвальвацыі, за снежань 2014 года насельніцтва скупіла наяўнай і безнаяўнай валюты на $902 мільёны на чыстай аснове (гэта розніца між купляй і продажам).

Адкуль узяліся гэтыя грошы? Перадусім з рублёвых укладаў. За месяц з тэрміновых дэпазітаў і ўкладаў да запатрабавання было вынесена больш за 6,1 трыльёна рублёў. Гэта каля $550 мільёнаў у эквіваленце.

Такім чынам, у беларусаў на руках апынуліся вялікія аб'ёмы грошай. Куды людзі іх панеслі? Дакладна не ў банкі. Валютныя дэпазіты за снежань прырaслі ўсяго на $50 мільёнаў, і тое большасць ад гэтай сумы — капіталізацыя працэнтаў па ранейшых укладах.

Грошы засталіся на руках, і перад беларусамі, якія ўратавалі свае ашчаджэнні ад дэвальвацыі, стаіць вострае пытанне: як яшчэ і атрымаць з іх прыбытак?

Улічым, што ў кішэні ёсць тысяча даляраў ці адпаведнік у рублях — 15 мільёнаў. Куды іх можна ўкласці і які даход гэта дасць? Паколькі прадказаць далейшае разгортванне падзей складана, будзем класці грошы на тры месяцы.

**Прыбытковасць дэпазіта «Гарант» («Беларусбанк») у залежнасці ад афіцыйнага курса даляра 21.01.2016***

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 15000 | 17500 | 20000 | 25000 | 29660 і больш |
| 11% | 28% | 45% | 79% | 110% |

*Калі кліент кладзе грошы 21 студзеня пры афіцыйным курсе даляра 14830 рублёў

### Рублёвыя дэпазіты

Адразу пасля ўвядзення валютнай камісіі стаўкі па тэрміновых рублёвых дэпазітах падскочылі да 50% гадавых, потым Нацбанк парэкамендаваў банкам абмежаваць іх.

Аднак стаўкі па-ранейшаму высокія. Напрыклад, «Ідэя Банк» (дэпазіт — «Патройны бонус») прымае грошы пад 49% гадавых, і з кожным месяцам стаўка вырастае на 1,5%. Але ці не з'есць даходы дэвальвацыя? Рублёвы ўклад апраўдае сябе, калі курс даляра за наступныя тры месяцы вырасце не больш чым на 10%.

### Антыдэвальвацыйныя дэпазіты

Для тых, хто застаўся з беларускімі рублямі на руках, але больш не верыць у трываласць нацыянальнай валюты, ёсць так званыя «антыдэвальвацыйныя ўклады». Даходнасць у іх раздічваецца па наступнай схеме. Ёсць асноўная стаўка — 10-15% гадавых, — а таксама дадатковая. Яна залежыць ад таго, наколькі вырасце афіцыйны курс даляра.

Напрыклад, калі праз год курс складзе 25 000 рублёў (вырасце амаль на 70%), то і стаўка даходнасці складзе больш за 80%. Але калі курс замарозіцца, то кліент застанецца з асноўнымі 10—15%, і не больш за тое (глядзі табліцу).

Гэты тып дэпазітаў стаў асабліва папулярным пасля ўвядзення валютнай камісіі і з'яўлення некалькіх курсаў. Тады існавала вельмі выгадная формула: «стаўка дэвальвацыі, памножаная на 4 + бонус 10%». Тыя, хто тады адчуў сітуацыю і аднёс грошы ў банк, цяпер трымаюць свае рублі больш чым пад 150% гадавых!

У выніку банкі тэрмінова змянілі ўмовы на новых кантрактах — цяпер грошы можна пакласці толькі на год. А максімальную стаўку абмежавалі.

### Валютныя дэпазіты

У гэтым сегменце стаўкі таксама выраслі, яны дасягаюць 6,5%. Паклаўшы ў банк «БелВЭБ» (дэпазіт «Скарбонка») сваю тысячу даляраў, праз тры месяцы можна атрымаць $1016. Такая самая стаўка ў «Беларускага народнага банка» (дэпазіт «Тое, што трэба»).

Паводле закона, Беларусь гарантуе поўнае вяртанне ўкладаў, але калі ўсе кліенты раптам папросяць свае грошы назад, не вытрымае ніякая банкаўская сістэма. Уключыць станок і надрукаваць патрэбную колькасць рублёў не стане праблемай, а вось валюты можа ўсім не хапіць.

Валютныя активы банкаў могуць толькі на трацiну кампенсаваць дэпазіты. Што гэта значыць? Пры форс-мажорнай сітуацыі дэфолту свае грошы паспее вярнуць толькі трацiна ўкладчыкаў.

**Ягор Марціновіч**

# Дзе знайсці валюту?

За апошні месяц афіцыйны курс даляра **вырас больш чым на 35%**, аднак валюта ў абменніках так і не з'явілася. Якія спосабы знайсці валюту засталіся ў беларусаў?

### У абменніку — 15 125 рублёў

Месцы, дзе валюту можна знайсці ў адносна свабодным доступе, вылічваюцца доследным шляхам. Вакзалы і гандлёвыя цэнтры буйных гарадоў? Так, тут часта здаюць грошы, але амаль заўсёды стаіць чарга на куплю. Затое ў казіно, асабліва ўначы і пад раніцу, можна выкупіць некалькі сотняў, а то і тысяч даляраў.

Апроч таго, некаторыя банкі раніцай даюць сваім аддзяленням (не абменнікам пасярод вуліцы) падмацаванне, па некалькі тысяч даляраў і еўра.

Зрэшты, такога ажыятажу, як у 2011-м, пакуль няма. Тады розніца паміж афіцыйным і «чорным» курсам была вялікая, і скупшчыкі стаялі каля кожнага банка. Цяпер жа набыць патрэбную валюту часам можна і выпадкова, удала зайшоўшы ў абменнік.

### У банкамаце за мяжой — 15 430 рублёў

Большасць беларускіх банкаў увялі абмежаванні па разліках па картках за мяжой. Ліміт датычыцца купляў у крамах і зняцця грошай у банкаматах. Напрыклад, у «Белінвестбанка» ў залежнасці ад тыпу карткі можна патраціць (ці зняць) за суткі ў эквіваленце ад 1,5 да 5 мільёнаў рублёў, у «МТБанка» — 3,5 мільёна.

Зняць даляры наўрад ці ўдасца — такіх банкаматаў у суседніх краінах няма. Затое ў прыбалтыйскіх краінах можна зняць еўра. Памер камісіі трэба спраўджваць у банку, у сярэднім ён складае 2%. У выніку з карткі «Белінвестбанка» за мяжой можна здымаць па 280 еўра кожныя суткі.

### У абменніку за мяжой — 20 000 рублёў

Тым, хто не мае карткі, у Вільні можна аднесці рублі ў абменнік. Праўда, курс будзе нявыгадным, бо беларускі рубель — слабаканвертаваная валюта.

Курсы куплі і продажу даляра ў Вільні складаюць на сёння 13 400 і 20 000 рублёў адпаведна.

### На чорным рынку — 16000 — 17000 рублёў

Дэфіцыт любога тавара фарміруе чорны рынак. Многія беларусы звяртаюцца па даляры да валютчыкаў. Кошт даляра ў іх вагаецца на ўзроўні 16—17 тысяч рублёў, ён перадусім залежыць ад нахабства валютчыка. Незаконныя валюта-абменныя аперацыі жорстка караюцца законам, нават за самую маленькую суму можна нарвацца на канфіскацыю грошай і штраф да 18 мільёнаў рублёў. А за вялікія аб'ёмы абароту валютчыкаў могуць нават пасадзіць за незаконную прадпрымальніцкую дзейнасць.

**ЯМ**

# Як памочнік Лукашэнкі прапануе стабілізаваць эканамічную сітуацыю

**Кірыл Руды** гатовы да рынкавых рашэнняў.

Памочнік Аляксандра Лукашэнкі па эканамічных пытаннях Кірыл Руды бачыць два шляхі да забеспячэння стабільнасці цэн і валютнага курса. Сваё меркаванне ён выказваў падчас традыцыйнай навуковай канферэнцыі. Выступленне было апублікавана ў «Эканамічным бюлетэні».

### Праз фіксацыю курса

«Вопыт у галіне жорсткай фіксацыі курса маюць Балгарыя і Ганконг. Сутнасць яе ў тым, што праз заканадаўства грашовая маса прывязваецца да валютных рэзерваў і фіксуецца курс», — канстатаваў Руды.

Па стане на 1 студзеня золатавалютныя рэзервы Беларусі складалі $5,06 мільёна, а рублёвая маса — 91 трыльён рублёў. Пры такім разліку курс даляра мусіць складаць 17 950 беларускіх рублёў.

«Перавагі фіксацыі валютнага курса ў наступным: яна абумоўлівае інфляцыю, меншую за 10%, зніжэнне дэвальвацыйных і інфляцыйных чаканняў, рост даверу да нацыянальнай валюты, павелічэнне банкаўскіх зберажэнняў і падзенне працэнтных ставак, рост валютных рэзерваў», — адзначыў Руды.

Недахопы такога варыянта грашова-крэдытнай палітыкі, лічыць памочнік прэзідэнта, заключаюцца ў тым, што «Нацбанк не можа крэдытаваць банкі; тармозіцца рэалізацыя дзяржпраграм; не забяспечваецца рынкавае пераразмеркаванне рэсурсаў; з'яўляюцца неэфектыўныя арганізацыі».

### Праз грашовую масу

Пры такім сцэнарыі, растлумачыў памочнік прэзідэнта, Нацбанк уводзіць мяжу павелічэння грашовай масы, даводзіць параметры да банкаў па крэдытаванні эканомікі і кантралюе іх выкананне.

Перавагі гэтага варыянта заключаюцца ў тым, што ён дазваляе завяршыць шэраг старых дзяржпраграм і падтрымаць стрыманы рост эканомікі, мяркуе Руды.



«Недахопы наступныя: інфляцыя 10—15%, часовыя дэвальвацыйныя і інфляцыйныя чаканні. Вядома, абодва варыянты маюць свае недахопы, але горшае для доўгатэрміновага рэгулявання — не рабіць нічога», — перакананы Кірыл Руды.

**Цыт. «Эканамічны бюлетэнь»**

# Фоліевая кіслата: прымаем ці пазбягаем?

«У Амерыцы ўсю муку ўзбагачаюць фоліевай кіслатой, як у нас соль — ёдам, расказала мне дачка. Ці абавязкова прымаць фоліевую кіслату і нам, у беларускіх умовах?» — спыталася ў нас чытачка.

Агульнавядомы факт: дэфіцыт вітаміну B9 — фоліевай кіслаты — часцяком выклікае дэфекты нервовай трубкі плода, якія потым скарэгаваць немагчыма. Парокі развіцця плода — кашмар будучых мам.

Праблема дэфіцыту гэтага вітаміну мусіць быць вырашаная яшчэ да таго, як жанчына даведаецца пра сваю цяжарнасць — прафілактычна ці на самых ранніх тэрмінах. Вось чаму ўзбагачэнне ежы (белай мукі) фоліевай кіслатой з мэтай паменшыць колькасць дэфектаў нервовай трубкі ў эмбрыёнаў было больш за 10 гадоў таму ўведзенае ў Паўночнай Амерыцы.



Так ва ўмовах падвышанага спажывання фоліевай кіслаты апынуліся ўсе гендарныя і ўзроставыя групы насельніцтва. Іншыя краіны свету вагаюцца: ці ўводзіць падобную нацыянальную праграму? Ці апраўдае зніжэнне колькасці дзяцей з парокамі нервовай сістэмы тую рызыку, якую бескантрольнае спажыванне вітаміну B9 нясе іншым людзям?

Анколагі заўважылі, што фоліевая кіслата мае небяспечны падвойны эфект: здаровы арганізм яна ад раку бароніць, але калі ўжо існуе маладая пухліна на субклінічнай (беспраяўнай) стадыі — гэты вітамін спрыяе росту атыповых клетак.

Празмерны ўзровень фоліевай кіслаты ў цяжарных жанчын пры паніжаным узроўні вітаміну B12 падвышае рызыку дыябету 2 тыпу і атлусцення ў будучых дзяцей.

На фоне высокага ўзроўню фоліевай кіслаты кепска працуюць лекі, якімі лечаць рэўматоідны артрыт, псарыяз.

Усё вышэйзгаданае толькі пацвярджае здаўна вядомы прынцып: лекі прызначаюцца канкрэтным людзям з канкрэтнай нагоды. А ўніверсальных лекаў «для ўсіх» не бывае. Калі вы не рызыкуеце найбліжэйшым часам зацяжарыць, проста ешце шпінат, брокалі, гарох, кукурузу, апельсіны, збожжа, крупы і мяса — насычайце арганізм фоліевай кіслатой натуральным шляхам. А сінтэтычныя вітаміны і дабаўкі — гэта лекі, а значыць, нясуць патэнцыйную шкоду.

**Алена Савіцкая**

# Глыбачане набылі для музея рэдкую паштоўку

Жыхары Глыбокага набылі паштоўку з выявай свайго мястэчка, выдадзеную перад І Сусветнай вайной, і падаравалі яе мясцоваму музею.

Незадоўга да І Сусветнай вайны глыбоцкі гандляр кнігамі Л. Ром (дарэчы, у ягонай краме прадаваліся беларускія кнігі і календары) выдаў серыю каляровых паштовак з выявамі Глыбокага. Каляровая фатаграфія тады была рэдкасцю — рабіліся чорна-белыя здымкі, мастак іх размалёўваў, і толькі потым паштоўку друкавалі.

У снежні на аўкцыёне ay.by была выстаўленая паштоўка, якую ніхто ў Глыбокім дасюль не бачыў. На ёй бачныя забудова мястэчка і касцёл Святой Тройцы, якія адлюстроўваюцца ў спакойнай паверхні Кагальнага возера. Паштоўка была адасланая з Глыбокага ў Мінск 2 кастрычніка 1915 года — усяго праз некалькі тыдняў пасля першай — двухтыднёвай — акупацыі мястэчка нямецкімі войскамі.

Прадавец паставіў стартавы кошт 85 даляраў, але пазней зменшыў да 50. Калі краязнаўцы даведаліся пра існаванне паштоўкі, то вырашылі сабраць грошы і набыць. Кaардынаваў збор грошай і набываў паштоўку настаўнік і экскурсавод Юрый Калбасіч.

— Калі жыхары Беларусі выкупілі Статут ВКЛ за 45000 даляраў, то чаму жыхары Глыбокага не могуць выкупіць паштоўку за 85 даляраў? — кажа Юры Калбасіч. На паштоўку ахвяравалі каля пятнаццаці чалавек.

**Кастусь Шыталь, Глыбокае**




### Віншаванні з Масквы

Шаноўная рэдакцыя! З Новым годам вас! Прыемных навін, шчаслівых падзей для краіны і нас усіх. Усім вам здароўя, поспеху, кахання і дабрабыту ў сем'ях.

**Ваша даўняя чытачка Таіса Мішчанка з Масквы і Гарадка, што на Віцебшчыне**

### Удакладненне

У №02 ад 14 студзеня 2015 у артыкуле «Як сын палкоўніка КДБ стаў галоўным беларускім ідэолагам» была дапушчаная памылка ў імені былога супрацоўніка 7 упраўлення КДБ Аляксандра Рабца.

Прыносім прабачэнні Ігару Лазарчуку.

**Водгукі**

# Капітальны рамонт руіны «па-багатаму»

Звесткі аб катастрафічнай змене аблічча руіны Касцельнай вежы на Навагрудскім замчышчы ў артыкуле «Новая старая вежа» (№41 ад 5 лістапада 2014 года) выклікалі ў мяне вялікае абурэнне.

Замест унікальнай рамантычнай руіны Касцельнай вежы сёння мы бачым нешта зусім іншае. З вонкавага боку мы цяпер бачым банальную, пазбаўленую характару вежу нейкай крэпасці, падобную да многіх іншых, а з боку былога двара ад ранейшага выгляду не засталося нічога. Тое, што з'явілася, нагадвае недабудаваны катэдж з нечаканымі архітэктурнымі ўпрыгожаннямі.

Перад рэстаўратарамі стаяла адказная задача. Можа быць, прыняты канструктыўны прынцып умацавання і быў адзіны мачымы, можа і так. Але быў не адзіны варыянт таго, як гэты прынцып ажыццявіць. Канфігурацыя, памеры, матэрыялы дабудоваў, падрабязнасці іх форм маглі б быць іншымі. Да таго, рэшткі Касцельнай вежы з прыбудовамі накрылі дахам з вялікім вынасам карнізаў у стылі XIX стагоддзя, што недапушчальна змяніла сілуэт усяго гістарычнага ансамбля. Гэты дах быў зроблены быццам для таго, каб «гарантаваць цэласнасць цэглы». Калі гэта так, значыць, рэстаўратары перакулілі шкалу каштоўнасцей з ног на галаву: парупіліся аб захаванасці сучаснай ненадзейнай цэглы і прынеслі для гэтага ў ахвяру прыгажосць і натуральнасць аблічча ўнікальнага старажытнага архітэктурнага ансамбля, роўнага якому ў краіне няма.

Ансамбль Навагрудскага замчышча як унікальнае спалучэнне выразнага рэльефу мясцовасці, велічных руін і Фарнага касцёла побач — вялікая нацыянальная каштоўнасць. Тут адчуваўся подых гісторыі, моцная экспрэсія супрацьстаяння рэшткаў створанага нашымі продкамі стыхіям і часу. Тое, што там пачало з'яўляцца пад шыльдай ці то «кансервацыі», ці то «рэканструкцыі», бо тэрміны ўвесь час блытаюцца, такіх пачуццяў выклікаць не будзе.

Не будзем забывацца і аб тым, што існаванне помніка архітэктуры ў стане маляўнічых руін на працягу стагоддзяў — гэта таксама Гісторыя. Такім сваім выглядам рэшткі замка ўздзейнічалі на свядомасць многіх пакаленняў беларусаў, былі для іх патрыятычным пасланнем продкаў, будзілі і падтрымлівалі памяць аб слаўным мінулым Радзімы. Не выпадкова яны былі крыніцай натхнення многіх выбітных мастакоў. У цяперашнім выглядзе рэштак замка, не кранутых перабоукай, ёсць і трагізм, і ўзнёсласць. Гэта своеасаблівы артэфакт вялікай культурнай значнасці, які пачаў катастрафічна знікаць цяпер на нашых вачах.

У дапісе засмучаюць розныя спробы напаўапраўдання здзейсненай перабоукі руіны. Маўляў, і вежу ў Вільні дабудоўвалі, і Касцельнай вежы ў Навагрудку дадалі контрфорсы ў XX стагоддзі… Але тыя два выпадкі — прыклады эстэтычна бездакорнай працы рэстаўратараў, што зусім не наш выпадак.

У дапісе прагучала прапанова замяніць цяперашняе пакрыццё нядаўна зробленага даха над Касцельнай вежай на дахоўку. Гэта толькі моцна пашкодзіла б выразнасці ансамбля, якая цяпер у вялікай ступені ствараецца моцным кантрастам аблічча руін з Фарным касцёлам і па формах, і па матэрыялах, і па сілуэце. Дах гэты кантраст змяншае, а дах з дахоўкі — зменшыць яшчэ ў большай ступені. Не дахоўку тут трэба класці, а дах ліквідаваць.

І яшчэ. За рамкамі дапісу засталося галоўнае: якім па задуме рэстаўратараў будзе ўвесь архітэктурна-ландшафтны ансамбль Навагрудскага замчышча ў канчатковым выглядзе? Што, да вежы Шчытоўкі таксама хочуць нешта прыбудаваць і брылём яе накрыць? Грамадскасць павінна неадкладна атрымаць па гэтых пытаннях поўную інфармацыю і мець магчымасць выказацца.

**Ігар Байцоў, архітэктар, Мінск**



### «Калі Лукашэнка адчыніць акно» (№2)

Сёння адбываецца паступовы продаж краіны за ўладу для сябе і харчы для народу. Калі б не «нацыянальна-свядомыя» з іх «перажываннямі», дык цана краіны была б значна ніжэйшаю і, адпаведна, «навар». Без нас «калгас» быў бы даўно і з помпаю прыяднаны праз «узбуйненне». Наяўнасць жа «нацыянальна-свядомых» у беларускім грамадстве запавольвае гэты працэс і дае магчымасць манеўру таму ж «прэдседацелю нашэва калхоза».

**Кнехт**

Спадар Валошчык няправільна зразумеў мой артыкул пра «беларусізацыю». Калі я гаварыла пра «лавіну», я не мела на ўвазе лавіну беларусізацыі, а толькі тую, якая нас пахавае. Калі маладое пакаленне не пачне супрацьстаяць рэжыму палітычнай прастытуцыі, які ўвесь час планамерна вынішчаў беларускую культуру і мову, хутка нас як беларусаў проста не застанецца. Вось такая простая і банальная нават думка.

А летуценняў ніякіх няма. Ёсць упэўненасць у выбраным шляху. І кожны дзень я бачу такіх жа людзей з такой жа ўпэўненасцю. А нам няма яшчэ і 25.

**Кацярына Андрэева, Мінск**

### На «Мінск-Арэну» ідзеш, як у Паўночную Карэю (№2)

Вам, спадарыня трэба схадзіць на гульні чэмпіянату Беларусі па футболе. Адчуеце сябе нібыта ў турме. На арэне хаця б ветліва ставяцца і надгляд даволі лёгкі. На футболе вас могуць прымусіць зняць абутак ды шкарпэткі... Міліцэйская ў нас дзяржава.

**Алекс**

Паўгадзіны вы будзеце стаяць, калі прыйдзеце не за гадзіну да матча, а хвілін за 15—20. Прычым сам «шмон» праходзіць хутка. У цэлым такія меры бяспекі могуць выклікаць негатыўныя эмоцыі, але пасля 11 красавіка я лічу іх лагічнымі і апраўданымі. Дурняў шмат.

**Мікалай**

А чаго ты туды ходзіш?

**Дуня**

### «Без чытання «Нашай Нівы» мы тут ані дня пражыць ужо не можам» (№2)

Дык і праўда! Ранак на рабоце заўжды пачынаецца з NN.BY. І сам, і калегі да гэтага звыклі.

**Аляксей, Кіеў**

Тут у Латвіі таксама шмат хто чытае сайт NN.BY штодня. А яшчэ мы з сям'ёю апошнім часам амаль штодня глядзім выпускі перадачы «Наперад у мінулае» канала «Беларусь-3». Раю ўсім «замежнікам», хто цікавіцца ўсім беларускім, не толькі палітыкай. Жывыя песні ў арыгінальным выкананні, жывая беларуская вясковая мова — проста супер!

**Беларуска з Латвіі**

### «Ад выкарыстання зімовых шын будзе больш шкоды, чым карысці»

Мда.... У савецкія часы маглі абыходзіцца без зімовых шын: мала магутнасці, мала машын на дарогах, зімовых шынаў не прадавалі. Але цяпер узімку на летніх шынах ездзяць толькі ідыёты. Чым лепшае счапленне з дарогай — тым лепш.

На летняй гуме пры мінусавой тэмпературы счапленне з дарогай няма, ездзіць небяспечна! Аўтар, хоць ён і кіроўца з 30-гадовым стажам, мусіць, ніколі не ездзіў на прэміумных зімовых пакрышках, раз нясе такую лухту. Гэта — бяспека. А на бяспецы не эканомяць!

**Юрый**

### Спачуванні

**Выказваем шчырыя спачуванні** Андрэю Скурко, а таксама ўсёй ягонай сям'і ў сувязі са смерцю бабулі. Сябры

# Маці Жызнеўскага: «Нам трэба адстаяць памяць сына»

Прайшоў год, як на вуліцы Грушэўскага ў Кіеве **загінуў беларус** Міхаіл Жызнеўскі.



За гэты год Украіна зведала гора напоўніцу. Крывёй і смерцю пацвердзілася ісціна вайны, дадзеная харвацкай пісьменніцай Славенкай Дракуліч: «Вайна пачынаецца з таго моманту, калі вы ўжо не запамінаеце прозвішчы ахвяр».

За гэты год маці Міхаіла Жызнеўскага, Ніна Васілеўна, перажыла шмат: інфаркт, шпіталі, знявагі, апаганьванне магілы сына, абразлівыя словы ў свой адрас з боку беларусаў, якія наглядзеліся расійскага тэлебачання. І масавую шчырую падтрымку ад многіх украінцаў, адкрыццё помніка ў Кіеве, прыём у прэзідэнта Украіны Пятра Парашэнкі, уручэнне ордэна Героя Нябеснай сотні.

22 студзеня — злавесны дзень для Ніны Васілеўны. У гэты дзень памерла яе малая дачка. А праз 31 год, у гэты ж дзень, загінуў сын. «Надзея мая, апора мая надзейная была б у старасці. Я як пачула, што ён загінуў, — ногі адняліся, а сэрца ледзь не разарвалася на кавалкі», — Ніна Васілеўна ледзь стрымліваецца.

Толькі пасля гібелі Міхаіла Жызнеўскага спраўдзілася яго мара — набыць для бацькоў кватэру. «На Новы год, 31 снежня 2013, Міша тэлефанаваў мне, казаў, што ўжо сабраў каля 17 тысяч даляраў, абяцаў да вясны сабраць больш і купіць нам кватэру [бацькі хлопца раней жылі на здымнай кватэры, — «**НН**»]. Ён, бедны, не спаў, не адпачываў — працаваў усё, каб дапамагчы нам. І вось зараз мара яго спраўдзілася — мы набылі кватэру, нам дапамагла грашыма Украіна. Вось, я жыву ў яго мары. Толькі як мне тут жыць? Мне балюча тут і невыносна. Не трэба мне яна, такая мара. Лепш бы я пад плотам жыла, ды Міша быў жывы», — плача Ніна Васільеўна.

Кватэру бацькі набылі пры падтрымцы ўкраінскіх фондаў і неабыякавых украінцаў, у тым жа Навабеліцкім раёне, каля дрэваапрацоўчага завода, дзе жылі і раней. Ніна Васілеўна рэдка выходзіць на вуліцу са сваёй сціплай двухпакаёўкі — падводзіць здароўе, перанесены ў сакавіку 2014 года інфаркт.

Пры дапамозе кійка яна ледзь тупае па пакоі. На стале — партрэты Мішы, яго ордэн, рэчы, якія аддалі з украінскай пракуратуры: недапалены пачак цыгарэт, бел-чырвона-белая стужка, лекі, эластычны бінт. «Міша хварэў, вось і лекі былі з сабой, але стаяў на барыкадах. Рука ў яго была расцягнутая — вось гэтым эластычным бінтам перацягваў яе», — жанчына перакладае рэчы ў пакунку. Ля партрэта — гомельскія цукеркі «Дары Палесся». «Яго любімыя. Зараз на магілу яму прывозім. Ружы і такія цукеркі», — праз слёзы ўсміхаецца маці. У гэтым пакоі яна сядзіць і размаўляе з сынам. Яго любімы сабака Цэзар заўсёды побач. «Ён спаў з ім на адной падушцы. Зараз, як год па Мішу, відаць, адчувае — хварэць пачаў. І выздараўліваць не хоча, уявіце! Столькі лекаў набывалі яму з Наташай, дачкой, столькі ратавалі яго — а ніяк не папраўляецца», — дадае Ніна Васілеўна.

Украінцам яна ўдзячная за падтрымку, пералічвае імёны, прозвішчы тых, хто наведвае яе, тэлефануе. Сябруе з некаторымі бацькамі герояў Нябеснай Сотні, ведае многіх. Маці гартае першы том кніг пра Нябесную сотню. Там ёсць артыкулі пра яе сына, прысвечаныя яму вершы. «Вось яны, наша Нябесная сотня. Вось Назар — самы малады. Гэта Саша, гэта Сярожка Нігаян, бацькі яго завуць нас у госці», — кажа Ніна Васілеўна. Яна ўзгадвае, як яе сустракалі і віталі ў Кіеве, як увесь час з'яўляюцца кветкі ля помніка на Грушэўскага. Прыязджаюць украінцы і сюды, на магілу Мішы пад Гомелем. Толькі не дае тая магіла супакою некаторым беларусам, як і не даюць яны спакою маці героя.

«Ляжала ў шпіталі, з сэрцам. Рыхтавалі да аперацыі. Яшчэ сорак дзён не было па Мішу. І адна жанчына, таксама хворая, былы камсамольскі работнік, пенсіянерка, даведалася, што я — маці Жызнеўскага, і пачала шыпець: «Сука, вас трэба разарваць на кавалкі, твой сын — здраднік беларускага народа, нацыст!»

Здымалі кватэру. Пасля смерці Мішы нам, канечне, не прапанавалі выселіцца, бо куды нам было ісці — на вуліцу? Але паднялі кошт да трох мільёнаў. А суседзі таксама часам на нас: бандэры вы, ваш сын — нацыст! Што толькі мы не чулі! Нават суседка, якая сама з Украіны, кажа мне: чаго ён туды папёрся, да бандэраў?

А, што казаць, калі сваякі нават некаторыя баяцца ісці на абед — на год па Мішу. Але што мой сын зрабіў благога беларусам? Ніколі дрэннага слова ні на аднаго беларуса ён не сказаў! Чаму ж тады да яго такое стаўленне? Чаму беларусы такія бязлітасныя?» — хвалюецца маці.

Не пакідаюць у спакоі і магілу героя: то сцяжкі пазрываюць ды павыкідаюць, жоўта-блакітныя, то стужку «Герою Нябеснай сотні» раздзяруць на часткі.

«Я ведаю, я разумею, чаму беларусы так робяць — наглядзеліся тэлевізара. Там паказвалі і гаварылі, калі сын загінуў, што забіты браткамі бандыт Локі на Майдане. Пакуль тыя СМІ не дадуць іншую інфармацыю, што Міша — не бандыт, а загінуў за свабоду Украіны, — не будзе толку. Не будзе нам спакою. Зараз добрыя людзі збіраюць грошы на помнік, ён будзе вельмі прыгожы. І што нам — чакаць, пакуль прыедзем на магілу і той помнік нехта разаб'е? Можа, украінскае пасольства нам дапаможа. Міша загінуў за Украіну — хай Украіна дапаможа абараніць яго магілу. Каб Пятро Парашэнка выканаў абяцанне, змянілі літару закону, як ён казаў, і Мішу далі званне Героя Украіны — гэта б змяніла стаўленне да нас, да памяці сына. Можа, тады б ад яго магілы адчапіліся», — разважае Ніна Васілеўна.

Сям'я перажыла цяжкі і страшны год. «Мы жывём цяпер, не адчуваючы зямлі пад сабой. Як у тумане, як па багне ходзім. Я нават на магілцы не магу паверыць, што там мой Міша ляжыць. Але нам патрэбныя сілы. Нам трэба адстаяць памяць сына», — гаворыць жанчына.

Бабуля Ніны Васілеўны (і прабабуля Міхаіла), па словах жанчыны, дапамагала партызанам, пякла ім хлеб, перадавала медыкаменты. Ды нехта на яе данёс, і яе забралі немцы ў камендатуру разам з дзецьмі. На допыце фашыст патрабаваў пад пагрозай смерці выдаць партызан. Жанчына не выдала. На ноч яе з дзецьмі кінулі ў хлеў. І толькі цудам (адзін мужчына здолеў адчыніць звонку хлеў) удалося ўцячы. Дабеглі да адной вёскі з дзецьмі — там ніхто іх не адважыўся схаваць. Дабеглі да іншай — там адзін мужчына ўратаваў жыццё сям'і. «Міша часта слухаў гэтыя аповеды ад маёй бабулі. Ён быў вельмі ўражаны, і казаў мне: мама, як так зрабіць, каб быў мір на зямлі? Каб людзі жылі нармальна, не душыліся, не елі гнілую бульбу, як наша бабуля Соня! Ён быў чалавек міру, ён прагнуў міру для ўсіх», — дадае маці.



**Юлія Шымкевіч, Гомель**

# Генадзь Семянчук: «Чыстка ў Гродзенскім універсітэце — гэта антыдзяржаўная дзейнасць»

Вядомы **гісторык і археолаг** быў папярэджаны аб сваім звальненні напрыканцы 2014-га, яго прозвішча дапоўніла шэраг іншых вядомых навукоўцаў, звольненых з ГрДУ імя Янкі Купалы.



Дацэнт Генадзь Семянчук ніколі не лез напрамкі ў палітыку, не быў сябрам партый. Пры гэтым заставаўся прынцыпова беларускамоўным.

**«Наша Ніва»: Пры якіх абставінах Вас звольнілі?**

**Генадзь Семянчук:** Мяне папярэдзілі — 17 снежня — аб тым, што працаваць мне засталося да 27 студзеня 2015 года. Усё законна, падстава звальнення — артыкул 36 пункт 2 Працоўнага кодэкса: скančэнне тэрміну дамовы. Чаму так адбылося? Гэта мы даведаемся, альбо калі людзі шчыра скажуць, альбо калі будуць адкрытыя архівы.

Я не першы сярод звольненых. Раней за мяне пайшлі Андрэй Чарнякевіч, Іна Соркіна, Вячаслаў Швед, зараз таксама Святлана Куль-Сяльвестрава і інш. Я не здзіўлены, як сказаў звольнены Сяргей Сноп — гэта наўпрост «працяг спіса Шапіры». А дапытвацца дэталі — гэта ніжэй за маю годнасць.

**«НН»: Вы ўзгадалі «спіс Шапіры» — гэта метафара ці рэальны спіс няўгодных?**

**ГС:** Безумоўна, метафара, але кожная метафара характарызуе з'яву. Акурат за часамі Сямёна Шапіры пачаліся звальненні гісторыкаў з ГрДУ, сам «губернатар» казаў, што пра ўсе працэсы ва ўніверсітэце яму дакладваюць і кладуць на стол справаздачы — адсюль і метафара пра «спіс».

Шапіры няма, але звальняць у горадзе працягваюць — таго ж прафесара Астроўскага з Медуніверсітэта. Мінулай восенню акурат у Горадні была сарваная прэзентацыя «Мовы» Віктара Марціновіча. Менавіта з Горадні ў свой час пачалася справа на часопіс Arche. Ціск на грэкакаталіцкую грамаду наймацнейшы таксама тут...

Калі паглядзець на ўсходнія цэнтры — Полацак, Магілёў, Віцебск — там мы такога не бачым. Таму, мяркую, можна казаць нават не пра дзеянні на карысць узмацнення дзейнага прэзідэнта, але пра наўпроставыя расейскія тэхналогіі па знішчэнні ўсіх праяваў беларускасці менавіта тут. Мясцовыя рэктары і чыноўнікі — проста выканаўцы.

Я ўсё разумею, гэта палітычная барацьба, барацьба за ўладу. Але звальняць высокакваліфікаваных спецыялістаў — гэта антыдзяржаўная дзейнасць, бо, напрыклад, звольнена з ГрДУ Юля Юркавец — адна з лепшых практыкуючых археолагаў на Гарадзеншчыне. Хто яе заменіць? Існуе спецыяльнасць «гісторыя і археалогія», а археолагаў няма! Як навучэнцы будуць праходзіць практыку пасля чацвёртага курсу?

Падаецца часам, што на гістфаку ГрДУ можа выкладаць хто заўгодна, абы не прабеларускія выкладчыкі. Напрыклад, Уладзь Ягорычаў, яры сталініст, які прадае вучням свае кнігі. Валер Чарапіца, які прайшоў эвалюцыю ад камуніста да заходнерусістаманархіста. Тадэвуш Кручкоўскі, вядомы як польскі дзеяч. Куча этнічных расейцаў, якія прыехалі сюды за часамі СССР і так і не ўцямілі, што Беларусь — незалежная.

**«НН»: Будзе працяг рэпрэсіяў ва ўніверсітэце?**

**ГС:** Я б не называў гэта рэпрэсіямі. Тыя, хто гэта робіць, бачаць сябе дзяржынскімі і берыямі, а насамрэч яны банальныя шкоднікі. Гэта не рэпрэсіі, а антыдзяржаўная дзейнасць. Калі будзе загад з Мінска, той самы рэктар возьме мяне назад на працу, а ўсе пратаколы і даносы стануць гістарычнымі крыніцамі.

**«НН»: Што Вы адчулі, калі дазналіся пра звальненне?**

**ГС:** Злосць і крыўду спачатку. Але ў іншым сэнсе, не ў савецкім, маўляў, «якога хлопца класнага не ацанілі!..», а ў нармальным: злосць на няшчырасць, паскудства, непрафесіяналізм. Няма ж парушэнняў дысцыпліны з майго боку альбо скаргаў з боку студэнтаў.

Нават сон прысніўся: звоніць мне рэктар Андрэй Кароль, якога я за два гады так і не бачыў жыўцом, і кажа: «Даруйце, памылка выйшла, вяртайцеся!» Я прачнуўся з думкай: а ці хачу я вяртацца?.. Але стомленасць прайшла, і я зразумеў: я гатовы вяртацца ў перспектыве. Нават на больш высокую пасаду!

**«НН»: Якой Вы бачыце сваю будучыню?**

**ГС:** Я хачу застацца ў прафесіі. Пісаць, у тым ліку навуковапапулярныя рэчы. Хачу паспрабаваць сябе ў турызме, звярнуць увагу людзей на занядбаную беларускую спадчыну — могілкі, капліцы, замчышчы.

Зарэгіструюся на біржы працы як беспрацоўны дацэнт з пажаданнем атрымаць пасаду... ідэолага, скажам, на нейкім прадпрыемстве *(смяецца)*. А наогул, хацелася б напружыцца і паспрабаваць наладзіць выданне папулярнага ілюстраванага гістарычнага часопіса, якога так бракуе ў Беларусі.

**Гутарыў Алесь Кіркевіч, фота аўтара**

# «На нашу думку, можна»

Ці дазволена ў Беларусі **беларуская мова на ўпакоўцы**?




У студзені Віцебскі цэнтр стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі забараніў беларускую мову. Пра гэта даведаўся прадпрымальнік Яраслаў Манцэвіч, які вырашыў наладзіць у родным горадзе вытворчасць рысавых хлябцоў.

Дызайн беларускамоўных і расійскамоўных этыкетак Яраслаў замовіў у Віцебскай абласной друкарні, а потым панёс свае хлябцы на сертыфікацыю. На гэтым этапе ў прадпрымальніка ўзніклі праблемы.

«На гатовую прадукцыю з этыкеткай неабходна атрымаць дэкларацыю аб адпаведнасці. Аднак яшчэ на этапе падачы дакументаў супрацоўнік цэнтра мне сказаў, што этыкетка па-беларуску не адпавядае тэхнічнаму рэгламенту Мытнага саюза, паводле якога маркіроўка ўпакоўкі харчовай прадукцыі мусіць выконвацца па-расійску».

Спецыялісты віцебскага цэнтра спасылаліся на тэхнічны рэгламент Мытнага саюза 022/2011 «Харчовая прадукцыя ў частцы яе маркіроўкі». У дакуменце адзначана, што «маркіроўка ўпакаванай харчовай прадукцыі павінна быць нанесена на расійскай мове і на дзяржаўнай(ых) мове(ах) дзяржавы-члена Мытнага саюза пры наяўнасці адпаведных патрабаванняў у заканадаўстве(ах) дзяржавы(аў)-члена(аў) Мытнага саюза». З дакумента вынікае, што без расійскай мовы на ўпакоўцы нікуды: спачатку яе, а потым ужо і беларускую, калі ёсць жаданне.

Такой пазіцыі прытрымліваецца і Віцебскі ЦСМС, эксперт-аўдытар цэнтра Святлана Куксар. На пытанне, ці ўсё ж магчыма ў Беларусі на законных падставах пісаць на таварах па-беларуску, Куксар каротка адказала: «Мы тлумачыць стандарты не ўпаўнаважаныя. Раз тут напісана, што так павінна быць, значыць, павінна так быць».

«НН» звярнулася ў Дзяржаўны камітэт па стандартызацыі Рэспублікі Беларусь, каб паставіць кропкі над «і».

У адказе Дзяржстандарт спасылаецца не толькі на ТР МС, але і на Канстытуцыю Беларусі, закон «Аб мовах», закон «Аб ахове правоў спажыўцоў» і СТБ 1100-2007, якія ўсё ж даюць беларусам права карыстацца беларускай мовай у афармленні харчовых тавараў. «Такім чынам, на думку Дзяржстандарта, маркіроўка прадукцыі пры яе рэалізацыі выключна на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь можа ажыццяўляцца толькі на беларускай мове», — гаворыцца ў выніковай частцы адказу.

Выходзіць, што беларускамоўная ўпакоўка не забароненая, а работнікі Віцебскага ЦСМС ці то вырашылі перастрахавацца, ці то дрэнна разбіраюцца ў сваёй працы.

**Кірыла Хілько**

# У Баранавічах беларускамоўныя паскардзіліся генпракурору на дыскрымінацыю

Яны настойваць, каб іх дзецям **стварылі ўмовы** для навучання на роднай мове.

Як патлумачыла Таццяна Малашчанка, маці адной з дзяўчынак, у зварото бацькі дзяцей адзначаюць, што Баранавіцкі гарвыканкам, Брэсцкі аблвыканкам і Міністэрства адукацыі адмовілі іх дзецям у праве атрымліваць адукацыю на беларускай мове.

У 2010 годзе ў Баранавічах у СШ №14 быў створаны беларускамоўны клас, дзе вучыліся тры дзяўчынкі. Праз чатыры гады дзве дзяўчынкі — Яся Малашчанка і Аліса Філіпчык — паступілі ў гімназію №4. Аднак там ім адмовілі ў стварэнні асобнага класа для працягу навучання на беларускай мове. Баранавіцкія ўлады тлумачаць гэта тым, што дадатковых фінансавых сродкаў на беларускі клас няма.

– Цяпер усе вышэйшыя інстанцыі адказваюць нам словамі баранавіцкіх чыноўнікаў, што сродкаў няма, — тлумачыць маці дзяўчынкі. — Так працягваецца ўжо паўгода. Мы проста ходзім па коле.

Бацькі дзяўчатак лічаць, што арт. 50 Канстытуцыі РБ, а таксама арт. 17 аб роўнасці моваў і Кодэкс РБ аб адукацыі гарантуюць права выбару мовы ў любой навучальнай установе краіны.

– Таму мы просім генеральнага пракурора абараніць нашыя законныя правы і пакараць парушальнікаў закона, — кажа Таццяна Малашчанка. — Калі ж і ў пракуратуры нам адмовяць, будзем звяртацца ў міжнародныя арганізацыі, у ААН.

**Intex-press**

**Цытата**

**Міклашэвіч: Канстытуцыйны суд лічыць мэтазгодным выдаваць законы па-беларуску**



«Канстытуцыйны суд мяркуе, што зараз для забеспячэння свабоднага доступу да правасуддзя заканадаўчыя акты, якія закранаюць правы і свабоды грамадзян, мэтазгодна выдаваць на дзвюх дзяржаўных мовах — беларускай і рускай, у адпаведнасці з палажэннямі арт.17 Канстытуцыі аб роўнасці дзвюх дзяржаўных моў», — сказаў старшыня КС Пятро Міклашэвіч. Ён дадаў, што Канстытуцыйны суд, прымаючы пасланне, звярнуў увагу на тое, што на дзяржаўным узроўні прымаюцца меры для далейшага развіцця беларускай мовы. Таму ў КС вырашылі, што і ў юрыдычнай сферы таксама трэба зрабіць нейкія захады.

## БАСКЕТБОЛ

### «Цмокі» — «Ніжні Ноўгарад»



**25 студзеня на «Мінск-Арэне» «Цмокі»** прымуць «Ніжні Ноўгарад» у рамках Адзінай лігі ВТБ. Пачатак а 14. У складзе расійскай каманды апошнім часам добра гуляе беларус Парахоўскі.

## ІМПРЭЗЫ

### «Заходнебеларуская Атлантыда»

**Прэзентацыя кнігі кандыдата гістарычных навук** і журналіста Ігара Мельнікава «Заходнебеларуская Атлантыда» адбудзецца 23 студзеня а 18 у сядзібе БНФ (Чарнышэўскага, 3). Кніга прысвечана гісторыі Заходняй Беларусі. Чытачы змогуць пазнаёміцца як з жыццём звычайных беларусаў у 1921–1939 гады, так і з біяграфіяй цікавых гістарычных асоб, звязаных з нашай краінай.

## КАНЦЭРТЫ

### Landau

**24 студзеня а 19 у «Графіці» (зав. Калініна, 16)** сумесны выступ зладзяць брэсцкі гурт Landau і мінская каманда ZeBrocks.

### Neuro Dubel

**26 студзеня ў «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — канцэрт гурту Neuro Dubel. Пачатак а 19.

## ВАНДРОЎКІ

### «Ігуменскія цікавосткі»

**25 студзеня ладзіцца пазнавальная вандроўка «Ігуменскія цікавосткі»** па маршруце Смілавічы — Чэрвень (былы Ігумен) — Малыя Ляды — Раванічы — Багушэвічы — Беразіно. Кошт экскурсіі — 200 тыс. Запіс па тэлефонах +375 29 1694811, +375 29 1117332.

## ВЫСТАВЫ

### Выстава Арлена Кашкурэвіча

**Да 16 лютага ў Нацыянальным мастацкім музеі (Леніна, 20)** дзейнічае выстава работ Арлена Кашкурэвіча «Ab imo pectore» («Ад усёй душы»). У экспазіцыі — арыгінальныя аўтарскія паштоўкі, выкананыя ў тэхніцы лінагравюры і прызначаныя для віншаванняў мастаком сваіх блізкіх, сяброў і калег.

## ТЭАТРЫ

### 22 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Белы анёл з чорнымі крыламі
**Купалаўскі** — Вечар
**Лялек** — Ляддзя Роспачы
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 23 студзеня

**Балет** — Сільфіда
**Купалаўскі** — Сымон-музыка
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..

### 24 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Опера** — Паяцы
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 25 студзеня

**Балет** — Жар-птушка, Шэхеразада
**Беларускай драматургіі** — Адамавы жарты
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Лялек** — Малы і Карлсан, які жыве на даху
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 27 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Хам
**Опера** — Турандот

### 28 студзеня

**Балет** — Спячая прыгажуня
**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Офіс
**Опера** — Капельмейстар, Служанка-пані







## КІНО

### Вялікія вочы

**Жанр:** драма, біяграфія
**Рэжысёр:** Цім Бёртан
**У ролях:** Эмі Адамс, Крыстаф Вальц, Крысцен Рытар, Джэйсан Шварцман, Дэні Хьюстан, Тэранс Стэмп, Джон Паліта, Элізабета Фантонэ
ЗША, 106 хв

Амерыка 1950-х. Незвычайныя карціны, якія паказваюць крануальных дзяцей з вялізнымі вачыма, зрабілі сапраўдны фурор і літаральна апанавалі ўвесь свет. Іх друкуюць на календарах, паштоўках. Мастак Уолтар Кін прыдумаў поп-арт і нечакана зрабіўся каралём сучаснага мастацтва, адным з самых вядомых арт-дзеячаў Амерыкі. Але на піку славы мастака яго сціплая жонка Маргарэт раптам сцвярджае, што Уолтар — махляр і менавіта яна аўтар знакамітых карцін. Пакрысе адкрываюцца шакуючыя падрабязнасці жыцця пары, справа даходзіць да суда, які высвятляе праўду.

Цім Бёртан звяртаецца да незвычайнага для сябе жанру біяграфічнай драмы. Адышоўшы ад улюбёнай формы змрочнай казкі, рэжысёр тым не менш паказвае абаяльнага дзівака, жыццё і паводзіны якога выклікаюць розныя пачуцці. Моцны дуэт двух таленавітых акцёраў увасабляе на экране дзве культавыя фігуры ў гісторыі мастацтва: Уолтара і Маргарэт Кінаў. Гэта кранальная драма спадабаецца не ўсім фанатам Бёртана, але сама гісторыя зацікавіць многіх аматараў сучаснага мастацтва.

Актрыса Эмі Адамс (Маргарэт Кін) атрымала «Залаты глобус — 2015» за найлепшую жаночую ролю.

**Настасся Уласава**







### «Матухна Кураж і яе дзеці»

**Незалежны «Тэатр Ч»**, вядомы пастаноўкай «Дзядоў» Адама Міцкевіча, 21—22 студзеня прэзентуе «музычную камедыю пра вайну» — «Матухна Кураж і яе дзеці». Пастаноўка адбудзецца паводле п'есы Бертальда Брэхта ў перакладзе Генадзя Бураўкіна. Месца правядзення — Палац прафсаюзаў (пр.Незалежнасці, 25).

Памёр народны майстар Мікалай Тарасюк.

# Мікалай Тарасюк: апошні з магіканаў

Чалавек жыве адзін у пустым сяле, вакол яго дварышча на кіламетры — бур'яны і звяр'ё. Але проста каля хаты ў яго цэлая вёска драўлянага народу. Дзе хаўтуры, дзе вяселле, дзе ігрышча, дзе страху крыюць. Кожная сцэна так кампазіцыйна дакладна пабудаваная, што, калі легчы на зямлю і зірнуць на драўляны свет з вышыні росту яго народу, вёска тая падасца сапраўднай, а не лялечнай. Але не сённяшняй пустой беларускай вёскай з заваленымі будынкамі, а паўналюднай. Яшчэ не пакінутай ні людзьмі, ні Богам. Вунь ён, укрыжаваны Хрыстос, на ўскрайку, у атачэнні вяскоўцаў.

Гэты драўляны свет больш за сорак гадоў ствараў народны майстар Мікалай Тарасюк з вёскі Стойлы Пружанскага раёна. 14 студзеня яго не стала. 82-гадовы дзядзька жыў адзін, яго ўдарыў інсульт, пасля падключылася пнеўманія...

Кінарэжысёр Віктар Аслюк зняў пра Тарасюка два фільмы. Гэта яго камера зафіксавала ўнікальныя кадры: дзед Мікалай сячэ ля ракі дрэва на чарговых «людзей» і разважае, што «жывого чоловіка лёгшэ зробыты, чым дэрэвляного».

«Нас цягнула ехаць да дзеда (Віктар паслядоўна называе Тарасюка проста «дзед» — СМ) зноў і зноў. Я здымаў яго шэсць гадоў — ад 2009-га. Апошні раз — паўгода таму. Па выніках тых здымак мы змантавалі на «Беларусфільме» стужку «Дождж», уздагонку фільму «Драўляны народ». У «Дажджы» Мікалай Васілевіч раскрываецца з новага боку: ён спявае песні.

Я спецыяльна да яго паехаў, пачуўшы, што ёсць такі чалавек. Калі мы апынуліся ў яго вёсцы, на яго зямлі, дык пачалі без пэўнага плану і мэты — проста здымаць. Здымкі тыя ляжалі тры гады, дзед папракаў: чаму доўга здымаеш, гультай? У тым фільме ён яшчэ ў сіле. Калі мы аднавілі здымкі ў 2011-м, ён быў ужо іншым. Год — гэта вельмі многа для чалавека ў такім веку...»

Бацька Мікалая Тарасюка меў 75 дзесяцін зямлі. Каб не раскулачылі, з прыходам саветаў фармальна развёўся з жонкай, падзялілі гаспадарку. Сын застаўся з маці. Працаваў у калгасе, абкошваў каналы ў меліярацыю. Але, пражыўшы пры саветах большую частку жыцця, дзед, кажа Аслюк, захаваў абсалютна заходнебеларускую свядомасць. «Для яго пустым быў савецкі час, ён яго праскочыў. Дзед быў арыентаваны на зямлю, на прыватную ўласнасць. Гаспадар — асноўнае было яго слова.




Такіх людзей ужо засталося вельмі мала. Яшчэ што розніла яго ад савецкага чалавека: верыў у Бога па-сапраўднаму». Хоць, разам з тым, успамінае Віктар, Тарасюк часам плакаў па калгасе. «Але гэты плач быў па тых недалёкіх часах, калі ён быў у сіле, калі суседзі яшчэ жылі. Гэта хутчэй быў плач па сыходзе сялянства — цэлага сусвету з сваёй філасофіяй — з гістарычнай арэны.

...Сумна бачыць, як чалавека пакідаюць сілы. Я яго заспеў не ў самай лепшай форме — каб трохі раней... Ён працаваў на зямлі, як дай бог хто. Вакол была бацькава зямля, і ён яе абрабляў, колькі мог»

Тарасюк не быў фермерам, для якога гаспадарка — гэта бізнэс. Ён меў сапраўдную натуральную гаспадарку: ураджай ішоў на пракорм скаціне, мяса — у кладоўку. Дзеля грошай дзед збіраў і здаваў лісічкі.

«Рэзаць Тарасюк пачаў у досыць сталым веку, за сорак гадоў. Адбылося гэта без нейкага яўнага штуршка звонку. Рэзанне не было забавай, гэта быў працяг існавання ў сваім свеце». А свет той знікаў на вачах, усё менш прыкмет яго заўважаў вакол саслабелы гаспадар.

«Яго бядой была адзінота. Ён быў з тых людзей, якія пражылі жыццё самотна з-за свайго прыроднага розуму. Была ў яго лёсе і нейкая загадка, нейкая чалавечая гісторыя, якую я не змог высвятліць да канца. Дзед не ўмеў ні чытаць, ні пісаць. Але з такім прыродным розумам! Фенаменальна дасціпны, вясёлы, разумны. Аднойчы ён у сваёй манеры пачаў разважаць пра пачуцце гармоніі. От, як у нас афармляюць музеі! У тых залах, казаў, панастаўляна непатрэбных экспанатаў, нічога не зразумела, няма сістэмы. Я здзівіўся: такое пішуць у падручніках, што не мае быць нічога лішняга, што мае прысутнічаць асноўная ідэя... Адукацыя пашырала б яго далягляды, але парадокс: непісьменнасць захавала яго ў гэтым сялянскім свеце, які ён не пашыраў».

Былі ў яго кампазіцыі на, так бы мовіць, агульначалавечыя тэмы. Напрыклад, «Ядзерная бомба». Былі сюжэты палітычныя, у якіх прысутнічаў Лукашэнка. «Але гэта было навязана тэлевізарам, непаслядоўна і пераасэнсавана па-сялянску. Ён мог плакаць пра развал СССР — і адначасова праклінаць СССР. Некаторыя рабілі з дзеда апазіцыянера. Гэта лухта. Ён жыў у міфах, якія ствараў сам. Ён быў дастаткова крытычны, але прымаў уладу, — кажа Аслюк. — Ён адчуваў, што самае важнае — зямля, праца, традыцыі, вера ў Бога. Астатняе — не так важна».

«Дзед быў не такі, як усе. Абраны. Якая ў яго, непісьменнага, была адметная мова, якія камбінацыі словаў. Заверне штосьці такое — напрыклад, «дом жыцельны» — і думаеш, — падхоплівае Вольга Дашук, жонка Віктара. — А калі расказваў, што ўначы да яго Бог прыходзіць, мурашкі ішлі па скуры. Ён сапраўды ў міфах жыў, у іх была ўнутраная містычнасць — ён мог пра нейкую падзею расказаць два разы па-рознаму. Не быў нудны, як часта бываюць старыя».

Тры гады таму, расказвае Вольга, дзед сказаў: мне жыць засталося тры гады. Ноччу прыходзіў Бог і загадаў паставіць вялікі крыж, расказаўшы падрабязна, які той крыж мае быць. Дзед бедаваў, што сам не зможа паставіць. Хацеў прасіць унука дапамагчы. Апошнія гады яго жыцця былі напоўненыя бедамі. Адарваўся тромб, ад гэтага амаль перастала працаваць рука.

«А гэтым летам, якраз падчас здымак «Дажджу», памерла Надзя — жанчына, якая дапамагала дзеду, — успамінае Вольга. — Ёсць такая форма сужыцця ў адзінокіх старых. Яна была маладзейшая за дзеда, але яго пакалення. І мела мяккі характар. Дзеду трэба было паказаць, што ён гаспадар, трэба было панаваць, быць героем. Яна яму падыгрывала, слухалася яго. Таксама была ўдава — глядзела ляжачую 94-гадовую маці. Мела надта хворыя ногі, але прыходзіла штодня, бо дзед жыў адзін. Яна ўсё перажывала, што ён упадзе, будзе ляжаць і ніхто не дапаможа. Нешта такое і адбылося...»

Тарасюк стаў менш выразаць. Апошняя яго кампазіцыя называлася «Бальніца». Яшчэ не зрабіўшы, ён так яе апісваў сям'і рэжысёраў: «Я ляжу на стале — а яны нада мной з ножыкамі!» Кампазіцыю тую дзед падарыў дактарам.

Так разышлася па свеце большасць яго работ, кажа Аслюк. У адным музеі, у другім музеі... 27 фігур, ён казаў, засталося ў Польшчы: проста не вярнуліся з выставы. А рабіў ён вельмі многа. Рэзаў увесь час — і ўсё расплылося. Сам казаў, выразаў за жыццё трыццаць тысяч фігур. Ну, тут ён, можа, трохі перабольшыў, але тры тысячы дакладна ёсць.

Найбольш экспанатаў, каля трохсот, застаецца ў музеі на падворку: дваццаць гадоў таму Тарасюк пабудаваў яго побач з хатай і назваў «Успаміны Бацькаўшчыны».

Цяпер вялікае пытанне: дзе ён дзенецца? «Фармальна ж ён належыць сям'і, таму пытанне трэба тэрмінова вырашаць. Ці ён застанецца ў той хаце, што было б найлепей, ці перавязуць у Пружаны ці ў Мінск. Але марудзіць нельга, бо фігуры псуюцца — іх шашаль есць. Трэба кансерваваць», — кажа рэжысёр.

Тарасюк ствараў гэты драўляны свет найперш для сябе. Але, страціўшы яго, збяднеем усе мы.

**Сяргей Мікулевіч**

# Юрыю Станкевічу — 70



Сапраўднае імя пісьменніка — Георгій Харытановіч. Ён нарадзіўся 21 студзеня 1945 у Барысаве. Яго бацьку пасля вайны выслалі ў лагер за «ізмену родіне»: трапіў у нямецкі палон, збег, далучыўся да Беларускай самапомачы.

Станкевіч скончыў факультэт журналістыкі БДУ. Працаваў у барысаўскай газеце «Камуністычная праца», часопісах «Маладосць» і «Крыніца». Сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў.

У савецкі час яго творы друкаваліся рэдка. Іх публікацыю часам спынялі за тое, што ў іх «мала грамадзянскасці», за «ачарненне нашай рэчаіснасці».

Культавым стаў раман Юрыя Станкевіча «Любіць ноч — права пацукоў», у якім аўтар паказаў праблему «прыхадняў», якія труцяць беларусаў наркотыкамі, уводзяць на нашай зямлі свае парадкі. Пасля выхаду кнігі на аўтара пасыпаліся абвінавачванні ў расізме. Але менавіта гэты твор узняў яго на хвалю папулярнасці. Кніга застаецца ці не самай вядомай сярод твораў сучасных беларускіх пісьменнікаў.

Юрый Станкевіч таксама напісаў кнігі «Апладненне ёлупа», «Мільярд удараў», «Пэўка», «Шал» ды іншыя. Жыве ў Барысаве.

**СМ**

## Сцісла

### Trubetskoy прэзентаваў песню на верш Багдановіча

Адбылося гэта на папулярных курсах беларускай мовы «Мова нанова». Кампазіцыю музыкі напісалі паводле верша «Я бальны, бесскрыдлаты паэт».

### Catholic.by падтрымаў беларускія вышыванкі

Вышытыя беларускія кашулі маюць пазітыўнае значэнне як праяўленне нашай самабытнасці і наўрад ці маюць сувязь з неапаганствам, піша ксёндз Кірыл Бардонаў у артыкуле на афіцыйным сайце Рымска-каталіцкага Касцёла ў Беларусі.

### У Парыжы ўпершыню прайшло свята беларускіх Калядак

Мерапрыемства было арганізавана пасольствам Беларусі ў Францыі і прадстаўнікамі беларускай дыяспары, якая пражывае ў Парыжы, паведамляе прэс-служба пасольства. Падчас вечара адбылася дэгустацыя куцці і іншых беларускіх страў. Паслом у Францыі — былы міністр культуры Павел Латушка.

### «Альфа-банк» створыць першы беларускамоўны інтэрнэт-банкінг

Як паведаміў у афіцыйным твітары «Альфа-банк», вядзецца актыўная работа над новым інтэрфейсам сэрвісу «Альфа-клік», які будзе на трох мовах: па-руску, па-англійску і па-беларуску. Дзеля ўдасканалення беларускамоўнай версіі сэрвісу банк просіць пакідаць каментары ў адмысловым дакуменце з папярэднім перакладам.

**АА**

# Вецер вандраванняў

Апавяданне. Піша **Вінцэсь Мудроў**.

Прыземісты, фарбаваны светла-брунатнай фарбай дом цёткі Аўгінні стаіць непадалёку ад станцыі. Такія дамкі калісьці будавалі для чыгуначнікаў, а паколькі муж цётчын усё жыццё адпрацаваў машыністам паравоза, дык і атрымаў тое жытло яшчэ за хрушчоўскім часам. Займае цётка Аўгіння, што праўда, не ўвесь дом, а толькі яго палову. У другой палове жыве дачка з зяцем — саракапяцігадовым непітушчым здаравілам, які працуе дзяжурным па станцыі. Муж цётчын даўно памёр, а цётухна ўсё яшчэ займае свет і паміраць не збіраецца. Нават мае нейкую гаспадарку: гадуе ката ды двух індыкоў паўночнакаўказскай пароды. Былі яшчэ і індычкі, але тых зяць на калодку паклаў: суп з іх дужа смачны. Хацеў на майскія святы і індыкоў прыкончыць, але цётка не дала. Звыклася ўжо са сваімі гадунцамі. Усё ж весялей, калі хтосьці ходзіць па двары ды кулдыкае.

Індыкі ў цётухны ганарлівыя: грудзіны як тыя шары, галовы на спінах, хвасты веерам; ходзяць паважна, чырвонымі вісюлінамі трасучы, якія ў іх на дзюбах вісяць, — цётка тыя вісюліны «смаркачынамі» называе. Але ж праз індыкоў і з двара немагчыма выйсці: бягуць, пракуды, следам. Цётка ўжо, як у краму збіраецца, і сумкай махае, і весніцы прычыніць. Але ўсё адно: узляцяць на паркан, адтуль, пёры губляючы, на зямлю і валакуцца за гаспадыняй да самай крамы. Прасіла неяк зяця сетку на паркан нацягнуць, каб індыкі са двара не пераляталі, але ж таго ці дапросішся.

Вось і сёння... пабачылі, недарэкі, што гаспадыня на ганак з пустой сумкай выйшла — і адразу ж да весніц кінуліся. Выбеглі на падворак, закулдыкалі і шыі цягнуць, гаспадыню выглядаючы.


PHOTO.BYMEDIA.NET

— А каб ужо на вас... — незласліва прамовіла гаспадыня, сыходзячы з ганку, — цягаецеся следам, ужо людзі смяюцца!

Цётка Аўгіння дакорліва крэкнула, слязлівымі вачыма зірнула на сонца, збіраючыся чыхнуць, але не чыхнула і валюхастай хадою рушыла ў краму.

Да крамы ісці недалёка. Прайсціся ўздоўж чыгуначнай лініі, а потым павярнуць направа. Індыкі, як заўсёды, ідуць першымі. На каляіне, уздоўж якой шкандыбаюць, стаіць таварняк з нізкімі платформамі, а ля вагонных колаў гарласта завіхаюцца каўкі ды вароны. На двары сярэдзіна жніўня, па чыгунцы возяць збожжа, яно сям-там высыпаецца, таму на станцыі ад самага ранку збіраюцца птушыныя грамады.

Пабачыўшы шумлівых варон, індыкі на момант забываюцца на гаспадыню, збочваюць са сцяжыны. Ім таксама карціць паласавацца крамянымі зярнятамі. Дома ж кормяць адно варанай бульбай ды сечанай крапівой з кіслым малаком, а тут такая смакоша!

Цётка Аўгіння з такой праявы нават перахрысцілася: падзякавала богу, што сёння адна ў краму пойдзе, без гэтых недарэкаў, і, азірнуўшыся, прыспешыла крок.

Зерня было няшмат, дый дзяўбсці яго было нязручна, бо яно ўбілася ў шчыліны між друзу і дзындры. А тут яшчэ вароны, сеўшы на дах суседняга вагона, незадаволена гарлалі, і індыкі, кулдыкнуўшы ў адказ, узляцелі на платформу. Думалі, можа, там, на платформе, дзеўбануць зярнятаў, але так і засталі ў ачмурэнні, бо міма, па суседняй каляіне, з аглушальным шумам заляскатаў цягнік. Ратуючыся ад грукату і ляскату, яны прыціснулі галовы да спінаў, уражана залыпалі павекамі, і нават калі грукат заціх удалечыні і ўзняты цягніком пыл паволі асеў, індыкі доўга не маглі ачомацца, маракуючы: што гэта было? І ачуліся толькі тады, калі платформа тарганулася і прыдарожныя кусты — спачатку паволі, а потым усё хутчэй і хутчэй — паплылі перад вачыма.

Ля самых дзвярэй крамы цётку нагнаў надрыўны хлапечы лямант:

— Бабуля, вашы індыкі паехалі!

Два падшыванцы беглі ад станцыі, адчайдушна махаючы рукамі.

— Куды паехалі? На чым паехалі? — уляknута-плаксівым голасам азвалася цётка, не цямячы — пра што гаворка.

— У бок Азярышча! На цягніку! — разам крыкнулі падшыванцы.

Цётка Аўгіння страсянула галавой, адганяючы страшную вестку, і голасна, на ўсю ваколіцу заламантавала:

— А чаго ж вы іх адтуль не сагналі-і?!

— Ды мы здалёк ужо ўбачылі, калі цягнік хуткасць набраў, — пакрыўджана азваліся падшыванцы.

Усе, хто быў у краме, выкуліліся на вуліцу. Адна з жанчын, яшчэ не ведаючы — што здарылася, таксама ўголас заламантавала, а дзядзька ў ссунутай набакір чыгуначнай фуражцы, пачуўшы пра індыкоў, пхнуў у кішэню пляшку «чарніла» і глыбакадумна заўважыў:

— Кепска, відаць, кармілі, вось і паехалі шукаць лепшай долі.

Зяць, як заўсёды, сядзеў на лаве і пыхкаў папяросай. Лава стаяла каля расчыненага акна дзяжуркі, і калі за спінай азываўся тэлефон, дзяжурны па станцыі лез у аконны атвор і даваў загады машыністам, стоячы вокрачку на падаконні і выставіўшы ў вакно свой па-жаночы абвіслы азадак.

— Чаго ты сядзіш! — яшчэ здалёк выгукнула цёшча, заграбаючы нагамі шэрую пылюку.

Ад таго ляманту ў дзяжурнага галава ўехала ў плечы і з роту выпала папяроса.

— Спыняй свой цягнік! Хай бягуць — шукаюць маіх саколікаў! — голас цешчын набыў тым часам ужо зусім істэрычныя ноткі.

— Які цягнік?! Каго шукаць?! — у зяця ўстаўбурыліся валасы на галаве і дробна задрыжэла ніжняя вусна.

Хвілін пяць цётка Аўгіння, дарэшты блытана, апавядала пра сваю бяду, а калі зяць, уцяміўшы нарэшце, што да чаго, падабраў з-пад ног папяросу, цешча абурана ляпнула яго па руцэ.

— Ты што... аглушэў ці што з табой? Спыняй, табе кажуць, цягнік!

— Мы што, з-за двух індыкоў будзем ламаць графік руху? — буркнуў зяць, залазячы ў атвор акна і ледзь чутна дадаў: — Галосіць, што тая Гамзаціха.

Гамзаціха была іхнай суседкай — хата яе стаяла на другім баку чыгуначнай лініі. Летась нейкія п'яныя хлопцы пераехалі на матацыкле ейнага гусака, дык суседка цэлы месяц па ім галасіла.

Цётка Аўгіння плюхнулася на лаву, пераявла дых, ссунула з левага вуха хустку, каб лепей чуць зяця, які ўжо некаму тэлефанаваў.

— Мікола?! Цябе зараз у Азярышчы спыняць — прабяжыся ўздоўж саставу. Там дзесьці на платформах павінны два індыкі сядзець... Ну якія... звычайныя... паўночнакаўказскай пароды. А? Ёп.. ну звычайныя, кажу, хатнія.. Ты што, індыкоў ніколі не бачыў? Што? Чые? Ды цешчы маёй... А?.. Ды ніхто іх туды не садзіў, самі селі, — дзяжурны па станцыі, праўдападобна, пачынаў губляць душэўную раўнавагу. — Ну не селі... заляцелі... Што? Ды лётаюць... гэта твае, можа, не лётаюць, а цешчыны праз плот сігаюць... маладыя былі, дык на хату ўзбіваліся... А? Ды без цешчы еду-уць, адны-ы... — з робленым стогнам выдыхнуў дзяжурны па станцыі і выцер халодны пот з лабешніка.

Зяць хвіліну маўчаў, а потым, мацюкнуўшыся, паведаміў:

— У мех які запіхні... Ну ты што ўжо — індыка не зловіш?

— І хай папярэдне лапы звяжуць, — падхапілася з лавы цешча, і зяць бязгучна мацюкнуўся ў адказ.

... Званок прагучаў рэзка, звінюча, спалохана, і цётка Аўгіння ізноў прыхапілася на ногі. І па тым, як спахмурнеў зяцеў твар, зразумела, што больш ужо не ўбачыць сваіх гадунцоў.

— А ты ўсё агледзеў? — запытаўся дзеля прыліку зяць і, павесіўшы слухаўку, асуджана развёў рукамі. — Засеклі б на майскія святы, дык цяпер і бяды б не мелі.

— Каб цябе самога, паскуду, засеклі, — выдыхнула ў сваю чаргу цешча і з такім імпэтам прычыніла акно, што трэснула шыба і з даху сыпанула парахня.

Цётчыным індыкам дагэтуль не даводзілася ездзіць на цягніку, ды яшчэ на адкрытай платформе, і таму яны з захапленнем пазіралі на прыдарожныя кусты, высокія дрэвы і кіламетровыя слупы, што праплывалі міма, і вецер вандраванняў, насычаны густым цеплавозным смуродам, прыемна казытаў голыя шыі і чырвоныя «смаркачыны», што матляліся ў такт хістанню платформы.

Праехаўшы так кіламетраў дваццаць, індыкі саскочылі на вагонны насціл і пачалі, хістаючыся ў бокі, шукаць якіх крыхотак. Аднак нічога спажыўнага не знайшлі. Нечакана цягнік загамаваў, дык так рэзка, што кулдыкаў прыціснула да пярэдняга борта. Калі рух зусім запаволіўся, крылатыя вандроўнікі ўзляцелі на той самы борт і агледзеліся. Поруч, на суседняй каляіне, стаяў такі ж цягнік з такімі ж платформамі; індыкі, не згаворваючыся, узняліся ў паветра, а праз імгненне ўжо стукалі дзюбамі па металёвай падлозе: у адным з кутоў платформы, на якую яны пераляцелі, ляжала, прасыпаўшыся з меха, ладная кучка камбікорму. Потым цягнік крануўся з месца, падлога пачала зыбацца, дробна дрыжэць, але індыкі нічога не заўважалі, бо ўпершыню ў жыцці дзяўблі грануляваны камбікорм. Але вось птушыны далікатэс быў даедзены, падлога падмецена віслымі індычымі барадамі; вандроўнікі згадалі раптам родны хлеў, гаспадыню, ускочылі на край платформы і, на сваю радасць, убачылі знаёмую вадавежу, станцыю, гаспадынінага зяця, які гэтым разам не сядзеў на лаве, а нервовым крокам хадзіў сюды-туды па ходніку і дыміў папяросай; убачылі фарбаваны ў светла-брунатны колер дамок пад шэрым дахам, на які яны, калі былі маладымі, любілі залятаць, і хаця цягнік толькі крыху скінуў хуткасць і, падобна, не збіраўся спыняцца, залапаталі крыламі і былі падхопленыя народжанай цягніком віхурай.

Тым часам цётка Аўгіння сядзела на ганку на пару з суседкай Гамзаціхай — той самай, у якой летась прыдушылі гусака, — і апалым голасам дзялілася сваім горам. За іхнімі спінамі паніла вуркатаў кот Базыль. Кату таксама было шкада індыкоў, з якімі ён хоць і не надта сябраваў, але якіх штодня бачыў на падворку.

— Во як яно... гадавала, гадавала... і выгадавала... падлюкам азярышчанскім на патэльню. Схапілі, відаць, маіх саколікаў — і вокам не міргнулі, — пасля такіх слоў цётка плаксіва смаркнулася ў брудную насоўку. — Азярышчанцы ж дужа не глядзяць — чужое гэта ці сваё...

— А можа, гэта паравознік індыкоў пахапаў? Злавіў, у мех піхнуў, а сказаў, што нікога не бачыў, — шапялява азвалася Гамзаціха ды так і застыла з разяўленым ротам.

У разнасцежаныя весніцы, ляпаючы крыламі і наўзахапкі кулдыкаючы пра сваю вандроўку, заляцелі два індыкі, і кот Базыль, пабачыўшы вандроўнікаў, узняў хваста і задаволена пацёрся аб цётчыну спіну.



**Вінцэсь Мудроў**

Нарадзіўся ў 1953-м у Полацку. Аўтар кнігі «Багун», якая заняла трэцяе месца на конкурсе імя Ежы Гедройца за 2013 год. Жыве ў Наваполацку. Сталы аўтар «НН».

---

Андрусь Кабан.

## Павага

мы гарадскія, двухмоўныя —
абсалютная большасць нас.
па-гарадскому трацім кроўныя,
ў кавярнях бавім свой час.
прызвычаеныя да грукату
будоўляў, чыгункі, метро,
да таксі і гіпермаркетаў,
да віртуальных сяброў.
да вокнаў вышэйшых за дрэвы,
да лядовых арэн…
усё добра, усё як трэба,
але, бывае, бярэ
сум па старых у вёсках,
што некалі там жылі,
а зараз ляжаць у дошках
у роднай сваёй зямлі

вясковыя, маласлоўныя,
абсалютная большасць іх
чакалі нас на выходныя,
нас, малых, гарадскіх.
частавалі нас парэчкамі,
хатняй сухой каўбасой,
і разам ішлі на рэчку мы,
і разам касілі расой…

яны засталіся ў вёсках,
ціха сышлі ў нябыт.
а мы вярнуліся проста
у горад, у свой дабрабыт.
цяпер бачымся рэдка,
на Радуніцу, Дзяды,
кладзём ціхенечка кветкі
ў падзяку за тыя гады.



КІРЫЛА ХІЛЬКО

**15 студзеня Беларускаму гуманітарнаму ліцэю імя Якуба Коласа споўнілася 25 гадоў. У 2003 годзе адна з самых элітных і прагрэсіўных устаноў сярэдняй адукацыі праз палітычны пераслед страціла афіцыйны статус і будынак у цэнтры Мінска. Цяпер установа працуе неафіцыйна. На фота: урок беларускай мовы ва Уладзіміра Дзіско, які выкладае з 1952 года.**




BUDZMA.ORG

**З аншлагам і фурорам у клубе «Графіці» прайшоў канцэрт Аляксандра Саладухі. Людзей было — не прабіцца, хоць білеты былі не самымі таннымі.**



**13 студзеня ў Мінску прайшоў Калядны турнір па спартыўна-баявых адзінаборствах на прызы мітрапаліта Філарэта. Удзел у спаборніцтвах узяў 10-гадовы ўнук кіраўніка дзяржавы Аляксандр Віктаравіч Лукашэнка, якому аддалі першае месца.**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Цэлы набор мясных страў на падкормачнай пляцоўцы прапаноўвае з раніцы насельнікам лесу ўладальнік «Сядзібы лесуна» Зміцер Шамовіч: галаву ласся, двух адстрэленых ваўкоў, лісу і янотападобнага сабаку. На фота: арлан-белахвост.**



## Анекдоты і жарты

* * *

— Бабуля, я Вас старанна абследаваў, Вы здаровыя. Растлумачце яшчэ раз, на што Вы скардзіцеся?

— Задыхаюся я.

— А калі?

— Калі аўтобус дагнаць не магу.

* * *

Паведамленне на старонцы школы ў «Фэйсбуку»:

— Тэрмінова прадаецца планшэт Samsung Galaxy Tab S.

— Ядзвіга Станіславаўна, Вы што? Вы ж казалі, што пасля ўрокаў аддасцё!

* * *

Сядзіць муж, глядзіць футбол. Раптам чуе ціхі голас жонкі з іншага пакоя:

— Не, мілы, сёння не магу, давай сустрэнемся заўтра.

Муж падрываецца і прыбягае ў пакой да жонкі:

— Гэта ты па тэлефоне размаўляла?

— Не, гэта я жаночы часопіс чытаю, 50 карысных выказванняў. Побач з гэтым, напрыклад, напісана, што муж прыбяжыць, нават калі вельмі заняты. Ты бач — не схлусілі!

* * *

Сядзіць беларус у канцлагеры, і тут ахоўнік-акупант звяртаецца да яго па-беларуску. «А божухна, якое шчасце! — радуецца беларус. — А давайце яшчэ шыльдачкі на мову перакладзём!»

* * *

Прыкладная матэматыка, задачка з жыцця. Капуста ў краме падаражэла ў два разы. Пытанне: у колькі разоў падаражэла «капуста» ў абменніках?..

* * *

У школе я вывучаў дзве замежныя мовы: англійскую і геаметрыю.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Пераход у расейскае падданства.** Ад пачатку вайны да 1 студзеня 1915 у Віленскай губерні хлапаталі аб прыняцці ў расійскае падданства 116 нямецкіх падданых, 101 аўстрыяцкі і 7 турэцкіх; задаволеныя толькі 19 просьб нямецкіх падданых і 12 аўстрыяцкіх, адных славян.

**«НН». №3. 1915.**

**Сінявокая Беларусь.** Васількoвую рэвалюцыю абвяшчае Мікола Статкевіч. Кааліцыя «Свабодная Беларусь» вылучыла яго кандыдатам у прэзідэнты. Варыянт перамогі на выбарах без рэвалюцыі не разглядаецца.

**«НН». №3. 2005.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**




8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7001. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 20.01.2015.
Замова №160.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

